ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

Выдаецца з 1932 г.
№ 36 [2615]
ПЯТНІЦА
8
верасня 1972 г.

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ НА ШАСНАЦЦАЦІ СТАРОНКАХ

Цана 8 кап.



Народны мастак БССР А. К. ГЛЕБАЎ. Сустрэча У. І. Леніна ў Петраградзе ў красавіку 1917 года.

Дзе Леніна праўда—на месцы пачэсным,
Там шчасце і радасць гасцююць штодзень,
Там славіцца праца, шануецца песня
І дружба яднае людзей.

Максім ТАНК.

Іван ШАМЯКІН

# БЕЛАРУСЬ ЧАКАЕ...

*З 12 па 17 верасня ў Беларусі будзе праходзіць Тыдзень літаратур народаў СССР, прысвечаны 50-годдзю ўтварэння Савецкага Саюза. Для ўдзелу ў тыдні да нас прыязджаюць прадстаўнікі літаратур усіх братніх рэспублік — празаікі, паэты, публіцысты.*

*Карэспандэнт «ЛіМа» сустрэўся з першым намеснікам старшыні праўлення Саюза пісьменнікаў БССР Іванам Шамякіным і папрасіў яго расказаць пра гэта свята братніх літаратур на Беларусі.*



— Тыдзень літаратур народаў СССР праводзіцца ў нас упершыню, і Саюз пісьменнікаў рэспублікі надае яму вялікае значэнне. «Все флаги в гости будут к нам»—на беларускай зямлі спаткаюцца прадстаўнікі літаратур шматнацыянальнай Краіны Саветаў, каб павесці сяброўскую гаворку пра поспехі народаў і літаратур за паўстагоддзе існавання дружнай сям'і народаў СССР, пра паўвекавы шлях нашай савецкай культуры, пра ўзаемаўплыў нацыянальных сацыялістычных літаратур. Госці ўбачаць, якіх вышынь дасягнула Беларусь за гады Савецкай улады, якімі сталі наш рабочы клас і калгаснае сялянства, глыбей пазнаёмяцца з тым, як нашы пісьменнікі адлюстравалі гэты шлях народа ў сваіх творах.

Мы раскажам гасцям, што ніколі не забываем і не забудзем пра братнюю дапамогу народаў усяго неабсяжнага Савецкага Саюза Беларусі на ўсіх этапах яе развіцця. Асабліва моцна мы адчулі гэта ў часы Айчыннай вайны, калі за нашу свабоду змагаліся ў шэрагах арміі і ў партызанскіх атрадах сыны і дочкі многіх народаў, і ў часы пасляваеннага аднаўлення, калі на дапамогу нам спяшаліся рускія і ўкраінцы, грузіны і армяне, прадстаўнікі ўсіх рэспублік.

У галіне культуры мы штодзённа адчуваем жыватворны ўплыў працэсу ўзаемадзеяння і ўзаемнага ўзбагачэння літаратуры і мастацтва народаў СССР. Беларуская літаратура ніколі не мела б такой шырокай чытацкай аўдыторыі, калі б не шматлікія пераклады на рускую мову і мовы іншых народаў. Прывяду толькі некалькі лічбаў, якія самі па сабе красамоўна сведчаць пра выхад нашай літаратуры на саюзную, а тым самым і на больш шырокую, міжнародную, арэну. За гады Савецкай улады кнігі беларускіх аўтараў выходзілі ў рускіх выдавецтвах больш 600 разоў, ва ўкраінскіх — больш 140, у Латвіі—25, у Літве—20 і г. д.

Глыбока ўдзячныя беларусы плацяць сваім сябрам такой жа ўвагай і павагай. Наш чытач на сваёй мове чытае М. Горкага і Ул. Маякоўскага, А. Талстога і М. Шолахава, А. Пракоф'ева і А. Твардоўскага, М. Рыльскага і А. Ганчара, Ш. Руставелі і Я. Райніса, Б. Кербабаева і Зульфію, Э. Межэлайціса і С. Шляху, Я. Судрабкална і М. Ханінава, Ч. Айтматава і Р. Гамзатава і многіх-многіх іншых. Толькі за 1966—1970 гады беларускія выдавецтвы выпусцілі 80 кніг пісьменнікаў з саюзных рэспублік.

Без гэтага ўзаемаўзбагачэння культур ні наш чытач, ні наш пісьменнік не мысліць сабе развіцця айчыннай літаратуры.

— Якой будзе праграма Тыдня літаратур народаў СССР?

— Урачыстае адкрыццё тыдня адбудзецца 12 верасня ў канцэртнай зале Дзяржаўнай філармоніі БССР. На вечары выступяць беларускія пісьменнікі і госці. Вечар будзе трансліравацца па радыё і тэлебачанні.

Удзельнікі тыдня пазнаёмяцца са сталіцай рэспублікі, агледзяць мемарыяльны комплекс «Хатынь» і Курган славы, наведаюць Вязынку—радзіму Янкі Купалы. Адбудуцца спатканні з рабочымі мінскіх прадпрыемстваў, студэнтамі вышэйшых навучальных устаноў, воінамі Савецкай Арміі. Мы хочам паказаць дарагім гасцям такія буйныя заводы, як аўтамабільны і трактарны, электронна-вылічальных машын і халадзільнікаў, радыёзавод і камвольны камбінат—каб найбольш выразна падкрэсліць паўвекавы шлях нашай рэспублікі ад сахі і лучыны да магутных прамысловых гігантаў, вырабы якіх вядомы ў многіх кутках зямнога шара.

Потым дэлегаты раз'едуцца па гарадах і вёсках усіх абласцей рэспублікі. І тут мы выбіраем маршруты так, каб госці ўбачылі ўсё самае значнае, усё самае важнае ў жыцці і працы людзей Беларусі.

17 верасня ўсе ўдзельнікі тыдня збяруцца на радзіме народнага паэта БССР Якуба Коласа. Тут, на беразе Нёмана, у маляўнічым урочышчы Дубы, адбудзецца Коласава свята паэзіі, прысвечанае 50-годдзю ўтварэння Савецкага Саюза. Прагучыць паэтычнае слова на мове Коласа і мовах братніх савецкіх літаратур. Тут можна будзе набыць кнігу з аўтографам любімага пісьменніка, паслухаць канцэрт, купіць сувеніры.

Коласава свята паэзіі будзе завяршальным мерапрыемствам вялікай падзеі ў беларускай культуры—Тыдня літаратур народаў СССР. Але гэта яшчэ далёка. А сёння мы рыхтуемся да сустрэчы з дарагімі гасцямі. І шчыра ім гаворым:

КАЛІ ЛАСКА, ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

# САРДЭЧНАЕ ПРЫВІТАННЕ!



*Мы звязаліся па тэлефоне з вядомым рускім паэтам Віктарам Бокавым і папрасілі яго даць кароткае інтэрв'ю напярэдадні Тыдня літаратур народаў СССР у Беларусі, падзяліцца творчымі планамі. Вось што ён сказаў:*

— Сёлета я многа падарожнічаў, быў у Сібіры, Малдавіі, Чэхаславакіі, збіраўся ўжо нават крыху адпачыць ад паездак. Але калі мне прапанавалі паехаць у Беларусь, я адразу згадзіўся, бо люблю Беларусь, люблю беларускі народ, яго песеннасць, яго працавітасць, яго цярплівасць і вынослівасць, яго гістарычны аптымізм, які гэтак блізкі мне, рускаму паэту.

Мы, рускія і беларусы, не толькі блізкія, мы родныя славам, духам і псіхалогіяй, мы аднолькава адчуваем зямлю, напеўнасць верша, мелодыю і сардэчнасць слова.

У апошні час можна пачуць выказванні аб «інтэлектуальнай паэзіі». Я з усіх трыбун рашуча выступаю супраць гэтага азначэння, бо яно размяжоўвае паэтаў на разумных і неразумных. Такога не бывае. У паэтаў ёсць мудрасць сэрца. Паэт — гэта чалавек, які, як ніхто, адчувае чалавека, яго прыроду, яго акрыленасць, яго здольнасць узнімацца да подзвігу, калі гэтага патрабуюць акалічнасці.

Сяргей Ясенін гаварыў, што галоўная яго тэма — любоў да Радзімы. Я магу паўтарыць услед за Ясеніным, паэтам, мне блізкім, што мая галоўная тэма — таксама тэма Радзімы, Расіі. Хутка ў мяне выйдзе новая кніга вершаў у выдавецтве «Современник». Яна называецца «Калі бралася на золак». Уся гэтая кніга — пра Расію, пра рускага чалавека, яго характар, інтэрнацыянальнасць яго душы, пра здольнасць рускага чалавека любіць беларуса, украінца, татарына, кіргіза, чалавека любой нацыянальнасці. Гэтая якасць рускай літаратуры ідзе з далёкай старажытнасці.

Беларускую паэзію я ведаю і люблю, чытаю яе ў арыгінале. І заўсёды перада мной паўстаюць два светлыя вобразы—Янкі Купалы і Якуба Коласа, з якімі я меў шчасце сустракацца. Яшчэ будучы студэнтам, я пазнаёміўся з іх творамі на беларускай мове і люблю іх так, як творы вялікага Кабзара.

Некалькі год назад я наведаў Мінск, было многа спатканняў з пісьменнікамі, студэнтамі. Асабліва запомнілася сустрэча са студэнтамі політэхнічнага інстытута — яна пакінула яркія, незабыўныя ўражанні.

Стаяў я і каля званоў Хатыні, прымаючы сэрцам усе пакуты, увесь боль, які вынесла Беларусь у часы вайны.

Рады буду спаткацца з Беларуссю зноў. Прывітанне вашым чытачам!

Іван МАРКЕВІЧ

## БРАТЫ

Не меў я родных у жыцці братоў,
Зрадніўся з лёсам дальняе дарогі.
І той мне брат, хто ў час любы гатоў
Падаць руку сяброўскай дапамогі.

Мы родныя і блізкія, калі
Адны ў нас думы і адны імкненні.
Сады гадуем, беражом палі,
Як сцяг, нясем мы дружбу ў пакаленні,

Нібы кляны, што ранкам залатым
Насустрач сонцу па дарозе крочаць,
Навек з'яднаны славаю рабочай,
Сыны рэспублік вольных,
Мы — браты!

НЕЗАБЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ



Аркадзь Куляшоў, Сяргей Грахоўскі, Эдуардас Межэлайціс.



Марыя Камісарава і Міхась Лынькоў.
Фота У. КРУКА.

ПЕРАКЛІЧКА СЯБРОЎ

Іван НЯХОДА
Украіна

## ДНЯПРО—СЛАВУЦІЧ

З Валдайскіх лясоў, між дубоў
сівавусых,
Дняпро пачынае свой шлях.
Расіі ў ім шчодрасць, блакіт
Беларусі,
Украінскіх песень размах.

У стэпах бяскрайніх Дняпро
наш сінее,
Як стужка ў касе залатой,
Якую ўплялі Беларусь і Расія
Сястры Украіне сваёй.

Разліўся Дняпро — волат
наш велічавы,
Магутная рэчка славян.
Краса Украіны, народаў трох
слава —
Пявучы, крылаты баян.

Пераклаў М. ХВЕДАРОВІЧ.

Берды КЕРБАБАЕЎ
Туркменія

## КАМУНІСТ

Камуніст?
І вязалі
Рукі рэзкім жгутом.
Камуніст?
Забівалі
Куляй, шабляй, нажом.

Камуніст?
Вораг крыва
Усміхаўся. Не жыць!
Камуніст?
І — з абрыву...
Толькі мора шуміць.

Да сасны прыбівалі
І палілі жыўцом.
На спіне выразалі
Зоркі
Злосным штыком.

А яны выціскалі:
«Скора ўсім вам канец...»
У баях выжывалі,
Хоць рашэцій свінец...

Камуніст! — Гэта горда
Вымаўляе народ!
Камуніст! Гэта — горы!
Гэта ў космас палёт!

Камуніст!
Гэта — слава
Нашых спраў і баёў!
Камуніст!
Гэта — права
На бяссмерце тваё!

Пераклаў Ю. СВІРКА.

Грыгорэ ВІЕРУ
Малдавія

## ТВАІМ ІМЕМ

...Тваім імем
яблык з галінкі зрываю.
Тваім імем
лашчу дачушку і сына.
Тваім імем
рукі сяброў паціскаю.
Калі трудна,
калі я пакутую,
тваім імем кратаю скроні..
Тваім зорным імем
ракету трымаю...
Але ворага,
які зырыць за мной з-за вугла,
які прагне адняць цябе ў мяне,
я за горла схаплю
тваім імем.

Пераклаў М. ФЕДЗЮКОВІЧ.

Уладзімір ГАРДЗЕЙЧАЎ
Расія

## УСТУП У АПТЫМІЗМ

*Л. Танчукову*

Ніколі ні ў кога нічога не просячы,
галаву непакрытую з гонарам носячы,
чаравікамі гліну дарожную месячы,
жыў адзін чалавек на зямлі.
Без плашча пад дажджамі асеннімі мок,
папіваў ля кіёскаў халодны квасок,
зацягнуўшы старанна тугі паясок,
жыў адзін чалавек на зямлі.
Адыходзячы спаць, не паеўшы ніяк,
анекдотамі сыпаў, смяяўся, дзівак.
Можа, весела надта, ды іменна так
жыў адзін чалавек на зямлі.
Песняй сыт, працiною калянай сагрэт,
малады быў, галоўнае ж — быў ён паэт.
І здаецца мне, кожнаму, можа быць, след
жыць, як той чалавек на зямлі.
Сам я так і жыву. Бы агеньчык, нясу
сваю ўсмешку, якая адольвае сум,
адкрываю скупую зямную красу
чалавеку на хмурнай зямлі.

Пераклала Е. ЛОСЬ.

НЕЗАБЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ



Кандрат Крапіва і Уладзімір Піменаў. Фота М. МІНКОВІЧА.

Піліп ПЕСТРАК

## ШЧЫРЫ ДРУГ І ДОБРАЗЫЧЛІВЫ КРЫТЫК

У ЛІПЕНІ 1943 ГОДА я прыляцеў у Маскву з партызанскага злучэння генерал-маёра Сабурава па выкліку ЦК КПБ. Прыйшоў у Саюз пісьменнікаў на вуліцы Вароўскага, і там мяне адшукаў А. Фадзееў.

Мне, пачаткоўцу, упершыню гаварыць з Аляксандрам Аляксандравічам было і боязна і ўцешна.

Мы сядзелі за столікам пры сцяне ў вестыбюлі саюза, і Аляксандр Аляксандравіч распытваў мяне пра партызанскае жыццё, пра баявыя аперацыі і г. д. Я адчуў яго шчырую зацікаўленасць партызанскім рухам, і гутарка пайшла свабодней — часам нават крыху з жартам, смехам. Пасля гэтай сустрэчы я ўбачыўся з Фадзеевым недзе ў 1947 годзе ў Мінску на кватэры Петруся Броўкі. Там былі Якуб Колас, Міхась Лынькоў і Пятро Глебка. Гутарка ішла аб літаратуры розных народаў, а я не мог наглядзецца на яго, Аляксандра Фадзеева — чалавека, поўнага таварыскай непасрэднасці, весялосці, эрудыцыі. Ён дэкламаваў нам верш аднаго з грузінскіх паэтаў-класікаў, гартаў кніжку Якуба Коласа.

Неяк у тым жа годзе ў Маскве ён спыніў мяне на падворку дома Саюза пісьменнікаў. Рыхтаваўся сесці ў сваю машыну, але, убачыўшы мяне, прыпыніўся. Павёў гаворку пра мой раман «Сустрэнемся на барыкадах», урывак з якога ён чытаў у перыёдыцы.

Як добра было ў мяне на душы. Я адчуў у Фадзееве сапраўднага друга нашых нацыянальных літаратур.

А калі ў 1948 годзе раман выйшаў з друку, я зусім нечакана атрымаў ад Аляксандра Аляксандравіча вялікі ліст. Аказалася, ён, будучы хворым, у бальніцы прачытаў маю кніжку на беларускай мове. У лісце ён адзначыў і тое, што мне ўдалося, і што яшчэ кульгае. У адказе я не шкадаваў слоў удзячнасці. А ліст Фадзеева я захоўваю як дарагую рэліквію.

Калі Аляксандр Аляксандравіч памёр, я паехаў у Маскву. Я не мог не пабачыць яго... Я стаяў і глядзеў на яго твар — на сціснутыя вусны, на светлае чало... Ён умеў мысліць шырока, умеў шчыра любіць наш савецкі народ, нашу слаўную гісторыю і нашу вялікую сучаснасць, азораную геніем Леніна.

Кім ВАСІН
марыйскі пісьменнік-краязнаўца.

## І СПРАВЫ, І МАРЫ, І ПЕСНІ— АДЗІНЫЯ

ПАМЯТАЕЦЦА, як у дзяцінстве мы, школьнікі-марыйцы, усхвалявана зачытваліся радкамі паэмы «Чыгунка» М. Някрасава. Там, сярод гора і журбы, нібы жывы, паўставаў вобраз селяніна-беларуса, занятага цяжкай, непасільнай працай.

Але беларус быў не толькі пакутнікам, прыгнечаным галечай, безвыходным жыццём. Глядзелі мы і кінафільм «Кастусь Каліноўскі» і захапляліся дзёрзкасцю і адвагай беларускага паўстанца, які рашуча ўзняўся на барацьбу з царызмам. Як родную песню, сустракалі мы вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, поўныя веры ў сілы народныя, яны клікалі да сонца і шчасця. Гэтыя вершы былі ў кнізе для школьнага чытання.

Творы беларускіх пісьменнікаў увайшлі ў наша жыццё, як добрыя, сардэчныя сябры. Многія з іх былі перакладзены на марыйскую мову. Так, пачынаючы з трыццатых гадоў, па-марыйску гучыць паэтычнае слова Я. Купалы і Я. Коласа, вершы і паэмы А. Куляшова, М. Танка, Э. Агняцвет, Е. Лось, І. Калесніка. Здабыткам марыйскіх самадзейных тэатральных калектываў стала шырока вядомая п'еса К. Крапівы «Пяюць жаваранкі», дабротны пераклад якой быў апублікаваны ў альманаху «Піялан ілыш» (1951 г., № 34). Па гэтых творах марыйскі чытач спазнаў душу і розум беларуса. Як кажуць у марыйскай прыказцы, сцежка на дарогу выводзіць, а дарога да народа прыводзіць. Дарогі гісторыі, народных лёсаў зблізілі, зрабілі добрымі сябрамі марыйцаў і беларусаў. Нямала марыйскіх дзеячоў, літаратараў зямлю беларусаў ведаюць не праз кнігі, не па чутках, а па сваім жыццёвым лёсе. Беларусь стала неадрыўнай часткай іх асабістай біяграфіі, радасцю і болем у сэрцы.

У маі 1920 года марыец-салдат Сцяпан Рэчкін па заданню чырвонага камандавання прабраўся ў белагвардзейскі тыл і з партызанамі-беларусамі вызваляў вёску Панюшкевічы ля ракі Бярэзіны. За гераізм, праяўлены ў баі за вёску, ён быў узнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. С. Рэчкін аказаўся першым марыйцам, які атрымаў гэту высокую ўзнагароду, і стаў героем многіх марыйскіх літаратурных твораў. Гэта пра яго расказваецца ў аповесці Б. Данілава «Міша-артылерыст».

Увосень 1939 года савецкія войскі вызвалілі Заходнюю Беларусь ад белапанскіх захопнікаў. Сярод воінаў, якія прыйшлі на дапамогу да братоў-беларусаў, былі марыйскія паэты, празаікі і журналісты В. Рожкін, М. Ачотаў, Г. Ціманаў, К. Бярэзін. Такая знамянальная падзея, як уз'яднанне беларускіх зямель, усхвалявала душу марыйскіх літаратараў, якія ў гэтай падзеі перш за ўсё ўбачылі рэвалюцыйны, інтэрнацыянальны змест. «Мы братам руку дружбы падаем», — так назваў народны паэт Марыйскай АССР Міклай Казакоў свой цыкл вершаў і песень аб вызваленні Заходняй Беларусі. У гэтых вершах і песнях, напісаных востра, эмацыянальна, гучна, расказвалася аб гераічным лёсе чырвонага конніка Янкі, які трапіў у палон да белагвардзейцаў; аб мары заходнебеларускіх сялян стаць вольнымі і шчаслівымі, што пранеслі яны скрозь гаротныя гады; аб радасці вызвалення, якая ахапіла сёлы і гарады за Нёманам. Аб радасці народа, які пазбавіўся ад прыгнёту эксплуататараў, гаварылася ў вершах «Радуйся, квітней усмешкай» М. Майна, «Падаем мы руку братам» П. Паршуты, «Дзед Міхась» М. Бальшакова, «Скрыпка» С. Вішнеўскага.

Ільдус АХУНЗЯНАЎ

Татарыя

# ДАНЯСЕ ПАКЛОН НАШ ВОЛЖСКІ ВЕЦЕР

Я ВЫЕХАЎ з КАЗАНІ на досвітку. А калі сонца ўстала з-за гарызонта, я ўжо імчаўся на быстраходным рачным трамвайчыку па Волзе. Мэта маёй паездкі — Печышчы, старажытнае волжскае сяло, дзе правёў апошнія гады свайго жыцця народны паэт Беларусі Янка Купала.

Яшчэ з вечара, перачытаўшы цудоўны зборнік вершаў Янкі Купалы, я вырашыў паехаць у Печышчы, пахадзіць па тых жа сцежках і пералесках, дзе калісьці хадзіў паэт. Зборнік быў на татарскай мове, і вершы для мяне былі такімі блізкімі, такімі зразумелымі, нібы я сам нарадзіўся і вырас у мілай сэрцу паэта Беларусі. Недарма Якуб Колас назваў творы свайго сабрата па пяры цудоўным букетам, складзеным з усіх кветак, што растуць на беларускай зямлі.

Мне хацелася больш поўна ўявіць сабе вобраз Янкі Купалы. І перад тым, як выбрацца ў дарогу, я зайшоў да пісьменніка Газі Кашафа, які сустракаўся з Янкам Купалам яшчэ да вайны.

«Мы, — сказаў ён, — спаткаліся з ім у 1939 годзе, калі народы нашай краіны адзначалі 100-годдзе армянскага эпаса «Давід Сасунскі». У Ерэван з'ехаліся прадстаўнікі ўсіх рэспублік і абласцей краіны. З Татарыі прыехалі паэт Хасан Туфан і я. Сярод дэлегатаў з Беларусі быў Янка Купала. І Туфану, і мне вельмі хацелася пазнаёміцца з выдатным беларускім паэтам. Але, па праўдзе кажучы, зрабіць гэта было не так проста. Янка Купала заўсёды быў акружаны старымі сябрамі. Самім падысці да яго і пазнаёміцца нам было няёмка.

Аднак жа выпаў зручны момант. Калі мы сядзелі ў сталоўцы, туды ж зайшоў паабедаць у суправаджэнні Сяргея Міхалкова Янка Купала. Мы прапанавалі ім прысесці побач. Разгаварыліся. Зразумела, размова ішла пра літаратуру. Спачатку мы расказвалі ім аб татарскай паэзіі, некаторыя з перакладзеных на рускую мову вершаў прачыталі ўголас. Янка Купала і Сяргей Міхалкоў слухалі з цікавасцю. Калі мы сказалі Купалу, што яго вершы таксама перакладзены на татарскую мову і што нашым чытачам яны падабаюцца, ён яшчэ больш ажывіўся, запытаўся, што менавіта перакладзена. Потым гаворка зайшла пра «Дзядзьку Сцёпу» Міхалкова. К таму часу нашы дзеці таксама чыталі яго на роднай мове, і «Дзядзька Сцёпа» паспеў ужо спадабацца ім. Купала слухаў і ўсміхаўся, але ў размову ўступаў рэдка. Мы запрасілі яго ў Казань. Ён сказаў, што заўсёды марыў пабываць на Волзе, убачыць мясціны, звязаныя з імем Леніна, наведаць горад, дзе прайшоў свае «універсітэты» Максім Горкі...

Прайшло два гады. І вось Янка Купала ў Казані. Толькі адбылася гэта сустрэча ў вельмі цяжкі для краіны час — ішла вайна.

Клуб пісьменнікаў імя Габдулы Тукая быў поўны эвакуіраваных літаратараў. Былі сярод іх і зарубежныя пісьменнікі-антыфашысты. Усе з вялікай увагай ставіліся да Янкі Купалы, кожны прапаноўваў свае паслугі. Усё-такі ў гадах быў чалавек... Аднак я не прыпомню, каб Янка Купала на што-небудзь скардзіўся або прасіў дапамогі. Сярод пісьменнікаў паводзіў сябе сціпла і як быццам нават стараўся заставацца непрыкметным.

Для свайго часовага жыцця Купала выбраў сяло Печышчы, што на самым беразе вялікай Волгі».

І вось зараз, пад'язджаючы да Печышчаў, я думаю: ці ўбачу каго-небудзь з тых старажылаў, якія сустракаліся з Янкам Купалам, ці змагу я дадаць хоць невялікі штрых да вобраза паэта, які жыве ў маім сэрцы?

Узышоў на круты волжскі бераг. Над самай вадой стаіць славутая Печышчанская мукамолка.

Непадалёк жылы будынак, на сцяне — мемарыяльная дошка. У гэтым доме з кастрычніка 1941 па чэрвень 1942 года жыў народны паэт Беларусі Янка Купала.

Зайшоў у невялікую, з двух пакояў, кватэру. Тут Янка Купала працаваў, чытаў газеты, слухаў радыё, адзначаў на карце прасоўванне нашых войск. Тут ён напісаў вялікі даклад «Айчынная вайна і беларуская інтэлігенцыя», які меркаваў прачытаць на сесіі Акадэміі навук БССР, тут жа падрыхтаваў прамову, з якой выступіў на радыё-мітынгу, праведзеным прадстаўнікамі беларускага народа 18 студзеня 1942 года ў Казані.

Пошукі людзей, якія ведалі паэта, прывялі мяне да Кузьмы Аляксеевіча Антонава. Ён часта сустракаўся з Іванам Дамінікавічам, і яны паспелі моцна падружыцца.

«Час тады быў нялёгкі, — расказвае Кузьма Аляксеевіч. — Самі ведаеце, нават тытунь ці цукар цяжкавата было дастаць. А Іван Дамінікавіч, убачыўшы мяне, абавязкова пакліча чайку папіць або проста пасядзець, пакурыць».

Мне параілі сустрэцца з Сахапам Салахутдзінавым, які ў тыя гады працаваў галоўным тэхнолагам Печышчанскага мукамольнага завода.

«Янка Купала, — прыгадвае Сахап-ага, — прыехаў да нас з сям'ёй у лістападзе 1941 года. Нашы Печышчы яму спадабаліся. Сам па характары працавіты, ён захапляўся рабочымі завода, якія самаадданa працавалі па 12 гадзін у суткі, добраахвотна адмаўляліся ад выхадных.

(Заканчэнне на 12-й стар.).

Верш «Дзед Міхась» па сваім ідэйным змесце і мастацкай форме пераклікаецца са зместам усім вядомага верша Я. Купалы «А хто там ідзе?..» Паэт звяртаецца да дзеда Міхася (гэта — абагульнены, сімвалічны вобраз селяніна-працаўніка з Палесся) з пытаннем: «Хто там свабодна і вольна крочыць па прасторных палях? Хто цяпер вясёлы і ўсміхаецца радасна? Гаспадар жыцця новага!»

Некаторыя паэты пісалі пра ўбачанае сваімі вачыма. Прыйшоўшы разам з чырваназорнымі воінамі ў сёлы, размешчаныя на беразе Нёмана, М. Ачотаў пачуў ад мясцовых жыхароў расказ аб гераічнай смерці адной сялянкі, якая загінула ў баях з панамі, і на аснове пачутага напісаў баладу «Гэта было ў Гродна». К. Бярэзіну, журналісту, былому супрацоўніку газеты «Марий коммуна», напярэдадні вайны давялося служыць у славутай Брэсцкай крэпасці. У маі 1941 года ён напісаў верш «На беразе Буга», дзе малады паэт даваў клятву пільна берагчы непарушнасць савецкай граніцы, а калі будзе небяспечна, то грудзьмі абараняць яе. Хутка ўжо не словам, а справай давялося яму даказаць гэта. Адважна змагаўся ён у лясах ля Буга і Бярэзіны, капітанам у 1945 годзе закончыў ён свой ратны шлях. Нямала ордэнаў і медаляў упрыгожылі яго грудзі. Аб сваёй баявой маладосці ён напісаў шэраг нарысаў, сярод іх — «Гераічны гарнізон» пра гераічнае змаганне за Брэст у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. У сваім нарысе К. Бярэзін упамянуў прозвішчы чырвонаармейцаў-марыйцаў, якія загінулі смерцю герояў у дні абароны Брэста. Гэта былі радавы Віктар Кузняцоў, сяржант Максім Бастракоў, нампаліт роты Аляксандр Іваноў.

У пачатку вайны дзесьці паблізу Нёмана загінуў М. Сарокін-Руй, артыст і літаратар-перакладчык. Гэта ў яго перакладзе да вайны публікаваліся на марыйскай мове п'есы А. Астроўскага. Застаўся навекі ў лясах Беларусі М. Ачотаў, паэт з вялікай творчай будучыняй.

Сямён Вішнеўскі, цяпер народны паэт Марыйскай АССР, да вайны служыў у адной з часцей Савецкай Арміі, размешчанай у горадзе Навабеліца. Там ён стварыў многія свае лірычныя вершы — «У лесе», «Вясенняя раніца», «Гукі жалейкі». А праз некаторы час ён ужо быў у самай гушчыні бою, аднак і тут урыўкамі, у час зацішку, працягваў пісаць вершы.

Змагаўся ён ля Жлобіна і Рагачова, біўся ў лясах Беларусі. У вершы «Гвардыі лейтэнант» адлюстраваў подзвіг дзяўчыны-беларускі, якая ў час баёў пераплыла Днепр і прыйшла ў савецкую часць, каб быць у радах абаронцаў роднай зямлі. Часова пакідаючы зямлю Беларусі, паэт пісаў:

**Поўныя гневу,**
**Мы змагаліся**
**З чорным ворагам,**
**Апошні наш бой**
**Быў ля Гомеля.**
**Што на рацэ Сож...**

Пакідаў паэт Беларусь, каб праз два гады зноў вярнуцца туды з перамогай.

З перамогай вярнуўся ў Беларусь і паэт В. Рожкін, які яшчэ да вайны служыў каля горада Маладзечна. Радасць вяртання адлюстраваў паэт у вершы «Беларуска» (1943). Уражанні ад перажытага, убачанага потым яму паслужылі асновай паэмы «У Беларусі» (1946), дзе гаворыцца аб баявых справах партызан Палесся.

На беларускай зямлі змагаліся з ворагам марыйскія пісьменнікі А. Бік, Н. Лякайн, Н. Ільякоў, А. Канюшкоў. Адной з партызанскіх брыгад у Беларусі камандаваў марыец Радзіён Ахоцін, баявыя справы якога цяпер вядомы ўсёй краіне. Марыйскі празаік Азмякей Мічурын напісаў пра яго аповесць «У расонскіх лясах». Пра подзвіг аднаго разведчыка-марыйца, які працаваў у тыле немцаў, на зямлі беларускай, нядаўна расказаў А. Цімафееў у сваім рамане «Чорны каршун».

Ад усяго сэрца, шчыра, быццам адчуваючы сябе часцінкай той зямлі, якой яны прысвяцілі сваю творчасць, пішуць марыйцы пра беларусаў—народ свабодалюбівы, упарты ў працы і бясстрашны ў баі.

Гэтыя творы даюць падставу сцвярджаць: і справы, і мары ў нас — адзіныя, і песні ў нас — адзіныя, па-братэрску сардэчныя!



Т. Салахаў (Азербайджан). Партрэт народнага паэта Азербайджана Расула Рзы. 1970—1971.

*ПЕРАКЛІЧКА СЯБРОЎ*

ЗУЛЬФІЯ

Узбекістан

## СЭРЦА ЗАСТАЛОСЯ Ў ВАС

Я звозіла родныя сэрцы з сабой,
Сваё — я пакінула ў вас:
Я ў вершах яго ўспаміналa з журбой,
Шукала яго на зямлі дарагой.
Дзе ж сэрца маё ў гэты час?

Ішла я па скалах, нялёгкі быў дзень,
Я ледзьве адолела шлях.
Растаў пад дажджамі слядоў маіх цень,
Але, як далёкае зоркі прамень,
Гарыць маё сэрца ў гарах.

Я ў шахту спускалася: вугаль, імгла,
Сцяжынка — нібы вастрыё.
І раптам знайшла я крынічку святла:
Як лямпу шахцёрскую, ў рукі ўзяла
Гарачае сэрца сваё.

Пралескі і вішні знайшла ў чысціні —
У вачах ясназорых дзяцей.
Я сэрца убачыла ў іх глыбіні.
Не ведае сэрца маё цішыні —
Усё б'ецца смялей і часцей.

Я ведаю: шчасця не згасне зара,
Пакуль нашы сэрцы жывуць.
З часоў, як я выбрала лёс песняра,
Я — нібы ракі паўнаводнай сястра,
Мне сілу крынічкі даюць.

Я вас пазнаю па прыліву цяпла,
Я вершы прынесла ў адказ:
Агонь вашых сэрцаў і дум зберагла.
Да вас я за сэрцам уласным прыйшла,
Яно ж засталося у вас.

Пераклала Эдзі АГНЯЦВЕТ.

ПЕРАКЛІЧКА СЯБРОЎ

Геворг ЭМІН

Арменія

## ПЕСНЯ ПРА ЖУРАЎЛЯ

Ты на чужыну на крылах нёс
Попел Арменіі,
Вочы твае, поўныя слёз,
Крыўду струменілі.

Скардзіўся ты: «Навек, навек!
Больш не вярнуся я.
Там на радзіме стогны і здзек,
Дзе прытулюся я?»

Знішчыў жыццё дзікі разбой,
Лютасць султанская.
Плача, сумуе разам са мной
Доля армянская».

Бачыў ты бежанцаў чараду —
Людзі убогія.
Неслі ў выгнанне сваю бяду
Многія, многія.

Бачыў пажараў чорны ланцуг,
Дыму крывавага,
І не пачуў ты нідзе, мой друг,
Слова ласкавага.

Толькі ніяк з любоўю сваёй
Ён не разлучыцца:
«Лепш у магіле знайсці спакой,
Чым вечна мучыцца».

І прыляцеў дадому жураў:
Скрозь — сёлы новыя;
Там, дзе мёртвы камень ляжаў,
Кветкі пунсовыя.

І за Араксам сам Арарат
Дзівіцца ўражаны,
Хоча наведаць цудоўны сад,
Намі пасаджаны.

Дружа, да нас ты сюды прынёс
Боль сэрца чулага,
Вільгаць вандроўніцкіх ціхіх
слёз,
Горыч мінулага.

Ты для братоў каласоў нарві
З поля пшанічнага
І перадай ім, як знак любві,
Шчасця нязвычнага.

Ты ў Аракса вады папрасі
Горнай, халоднае.
Жменьку зямлі братам занясі
Нашае роднае.

Кліч і вядзі іх сюды з сабой
З дальняга выраю.
Будзем мы жыць адзінай
сям'ёй,
Дружнаю, шчыраю.

Вам усміхнецца маці-зямля
Сонечнай ранічай,
Болей не будуць зваць
жураўля
Птушкай-выгнанніцай.

Дароў даецца многа чалавеку:
У маіх руках трывалых —
праўда веку,
І веліч барацьбы яго суровай,
І радасць прадчування долі
новай;
І тое, што я маю, акрыляе,
Слабець і адступаць
не дазваляе.
Іду ў гарах па сцежцы-
каменіцы,
І шлях мне асвятляюць
бліскавіцы.
Ёсць гарады, дзе я не быў
ніколі,
Блакіт нябёс і каласы ў полі.
Як лёгка дыхаецца,
ў думках яснасць!—
Іду ў наступнае цераз
сучаснасць;
Бязмежнасць космасу перад
вачыма —
І жыць мне без яго ўжо
немагчыма.
Шкада, шкада,
жыццё аднойчы скончыцца,
І не паспею ўсё зрабіць,
што хочацца:
Мяне так ветрам веку ахапіла,
Што мне б і сотні жыццяў
не хапіла...
Але ніхто не вырвецца
з нябыту!
Узняўся спадарожнік на арбіту,
Ляціць дарогай зорнаю,
вяртаецца,
З касмічных даляў да мяне
звяртаецца.
Гаворыць ён:
«Ты дымам быў паўзучым,
Быў дымам ты —
а стань агнём пякучым,
Стань полымем, каб твае
справы славілі,
Каб твае словы сум людскі
расплавілі».
Гаворыць ён:
«Ты быў лазою ніцаю,
А ты здружыся з бурай-
навальніцаю,
Ляці ў прасторы,
будзь адважным, мужным,
Прамчыся над зямлёю шляхам
кружным! —
Пазнаеш сам,
як шпарка ўсё мяняецца,
І безліч жыццяў
у табе з'яднаецца».

Пераклаў Ю. ГАЎРУК.

## ЛІСТ

Хакасія! Маленькі куток велізарнай Краіны Саветаў, якая разам з усімі адзначае сёлета 50-годдзе ўтварэння Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Непазнавальна змянілася за паўстагоддзе жыццё хакаскага народа, абуджанага магутным залпам «Аўроры».

«Магільныя камяні, зарослыя травой велізарныя арашальныя каналы, засыпаныя зямлёй шахты па здабычы медзі, серабра і золата, бляклыя таямнічыя пісьмёны, напісаныя на высокіх скалах, што панура навіслі над Енісеем, дзе лятаюць толькі арлы, — вось усё, што засталося ад магутнага народа, які калісьці тут абжываў стэп. Ён панёс усё з сабою ў магілу: свае медныя стрэлы, свае цудоўныя бронзавыя нажы і цудоўныя залатыя і сярэбраныя ўпрыгожванні; ён пахаваў з сабой сваё мінулае, сваю гісторыю, сваю мову, нават імя сваё...» — пісаў у XIX стагоддзі палітычны ссыльны земскі ўрач С. Ялпацьеўскі. Але памыліўся ён, не вымер Абаканскі стэп, не знік хакаскі народ.

Вясной, зіму прагнаўшы
злосную,
Расія шчасце нам дала.
І вось кілімамі дзівоснымі
Зямля хакасаў расцвіла!

Кастрычніцкая рэвалюцыя дала хакасам свабоду і аўтаномію, адрадзіла імя народа і яго мову. Нашчадкі гэтага мужнага народа з дапамогай рускіх братоў здзейснілі вялікія сацыяльна-эканамічныя і культурныя пераўтварэнні. За кароткі тэрмін калісьці адсталая паўкачавая Хакасія вырасла ў вялікі індустрыяльна-аграрны раён з развітай прамысловасцю і высокамеханізаванай сельскай гаспадаркай. Пабудаваны шматлікія фабрыкі і заводы, шахты і руднікі. Яшчэ не так даўно вядучай галіной народнай гаспадаркі Хакасіі была сельская гаспадарка, а ў нашы дні ўдзельная вага прамысловасці дасягнула сямідзесяці працэнтаў. Пастаянна даследуюцца і адкрываюцца багацейшыя радовішчы карысных выкапняў. Праз калісьці пустынныя, пакрытыя толькі бясконцымі магільнікамі Абаканскія і Койбальскія стэпы пралеглі сеткі чыгунак і аўтамабільных дарог, лініі высакавольтавых электраперадач, сучасныя арашальныя каналы.

Багатая і прыгожая прырода Хакасіі! Адным з цудоўных куткоў свету назваў Хакасію акадэмік Сібірскага аддзялення АН СССР М. А. Лаўрэнцьеў: «Даліна, акружаная гарамі, многа сонечных дзён, Енісей, урадлівая зямля, танная электраэнергія, у нетрах — уся табліца Мендзялеева». З вялікай любоўю гаворыць пра родную Хакасію паэт Мікалай Дамажакаў:

Ты прыедзь да нас
неспадзявана
І пабачыш стэпаў акіян,
Сталі берагамі акіяна
Горы Ала-тау і Саян.

Сталіца Хакаскай аўтаномнай вобласці горад Абакан ператварыўся ў апошнія дні ў буйны культурны і прамысловы цэнтр са стотысячным насельніцтвам. Цяпер Абакан звязаны чыгуначнымі і паветранымі трасамі амаль з усімі куткамі краіны. У горадзе, акрамя прамысловых прадпрыемстваў, шмат навучальных устаноў і устаноў культуры.

Яскравым сведчаннем клопатаў партыі аб развіцці нацыянальнай навукі з'яўляецца стварэнне ў 1944 годзе Хакаскага навукова-даследчага інстытута мовы, літаратуры і гісторыі. Вучоныя інстытута вядуць вялікую работу па вывучэнні багатай гісторыі, мовы, літаратуры і фальклору хакаскага народа.

Больш як шэсцьдзесят нацыянальнасцей адзінай сям'ёй жывуць і працуюць на палях, заводах і рудніках Хакасіі. Дзякуючы мудрай ленінскай нацыянальнай палітыцы хакаскі народ мае цяпер вялікі атрад спецыялістаў усіх галін, кандыдатаў і дактароў навук, пісьменнікаў і мастакоў.

Вялікім крокам у развіцці культуры хакаскага народа стала стварэнне ў 1925 годзе хакаскай пісьмовасці. Выхад у свет у 1926 годзе першых падручнікаў і ў 1927 годзе газеты «Хызыл аал» («Чырвоны улус») на хакаскай мове па-

Валянцін КАСАРОТАЎ

## ЧОРНАЯ КРОЎ

ІШЛА ГРАМАДЗЯНСКАЯ вайна.

На маладую Савецкую рэспубліку з усіх бакоў наступалі ворагі. Не было хлеба. Галадалі ўсюды...

... Падвечар харчатрад сабраўся ў каравульні.

— Кулакі ведаюць аб нашым прыездзе. Да ночы яны могуць схаваць усё збожжа. Нам трэба сёння ж вывезці лішкі збожжа. Філіпаў, ты паедзеш у Чорныя Азёры, а я — у Сасноўку,— сказаў харчкамісар і насунуў шлём па самыя бровы. Потым ён, ужо ў дзвярах, спыніў яго:

— Філіпаў, пачакай! Ты як быццам родам з Чорных Азёр?

— Так.

— Помніцца, ты гаварыў, што быў з бацькам на нажах... Твой бацька вельмі багаты?

Івук адказаў не адразу, пакатаў наском бота мёрзлы камяк конскага гною, рэзкім штуршком адкінуў яго ўбок і толькі потым загаварыў:

— Серадняк ён, толькі вельмі прагны. За капейку павесіцца, за дзве — заб'е. Помню, на гумне ў нас на сціртах нават бярозкі пачыналі расці, а ён гатоў быў выгнаць нас з маці ў свет...

— Давай, браток, едзь ты лепш у Сасноўку. Там табе будзе лягчэй — усё ж не з бацькам родным ваяваць...

□

Сярод ночы дзед Піліп прачнуўся ад страшнага сну. Доўга ляжаў, усё думаў, што б мог значыць убачаны сон. Потым не сцярпеў, штурхнуў у бок старую:

— Пёкла!.. Пёкла!.. Прачніся! Памерла, ці што?

Старая спалохана ўскочыла;

— А? Што?

— Сон, гавару, дрэнны мне прысніўся. Да чаго б гэта? — Піліп адкінуў стары кажух, якім накрываўся на ноч, і сеў. — Снілася мне, быццам ацялілася наша карова. Цялятка гэта занадта жвавае нарадзілася і адразу пачало гуляць, матку тузаць. Карова ўзлавалася і давай яго есці... І храбусціць касцямі цяляці, а з рота ў яе бяжыць чорная кроў...

— Божа, злітуйся, — перахрысцілася старая. — Захавай і абарані. Можа, з Івуком што? Цяпер час такі, ніхто нікому дабра не жадае. Ты сам вінаваты, бацька. Праз твой характар узлаваўся ён на нас, нават пісьма не прышле. Вунь людзі бачылі яго пад Казанню. Вярнуў бы яго бог дамоў...

— Я ж яго па-бацькоўску папярэджваў: будзеш знацца з чырвонымі — складзеш галаву ні за грош.

У акно пастукалі.

«Вецер?» — стары падняў галаву.

Не, не вецер. Стук паўтарыўся.

— Гаспадар!

Піліп торкнуўся потным ілбом у аконнае шкло.

— Хто там? Чаго трэба?

— Харчатрад. Адкрывай вароты.

Стары маўчаў. На вуліцы таксама маўчалі. Потым пачулася, як хтосьці пералез праз плот і загрымеў засаўкай, адчыняючы вароты.

Піліп сунуў ногі ў старыя валёнкі, накінуў на плечы кажух і выйшаў у двор. Не гледзячы на харчатраднікаў, ён прайшоў да свірна, памаліўся на крыж, накрэслены ў каляды крэйдай над дзвярыма, павярнуўся і, раскінуўшы рукі, стаў на парозе, доўгі і худы, быццам распяты Ісус.

— Паўночнікаў у свіран не пушчу!

Камісар пачаў тлумачыць старому, што будзе ўзята не ўсё збожжа, а толькі лішкі.

— Няма нічога. Тыдзень назад усё вышкраблі. Сам аддаў, не пашкадаваў: у мяне ж сын таксама ў чырвоных... Не верыце — глядзіце!

Стары шырока расчыніў дзверы.

Пакуль Піліп ламаў камедыю перад пустым свірнам, харчатраднікі знайшлі схаванае збожжа і пачалі грузіць на падводы.

У старога затрэслася сівая бародка;

— Усё прапала...

Гэтай жа ноччу ў Япыка ў двары таксама намацалі штыкамі закапанае збожжа.

Потым зайшлі да багатай салдацкай удавы Марыны, папрасілі адкрыць свіран і здаць лішкі збожжа.

— Ключа няма, — адказала ўдовачка.

— Куды ж ён падзеўся? — спытаў адзін маладзенькі чырвонаармеец.

Гаспадыня паглядзела на байца з ног да галавы насмешлівым позіркам.

— Ключ у Карпатах згубіўся, а замок — вось! — і яна зрабіла непрыстойны жэст.

— Тфу! — сплюнуў чырвонаармеец пад ногі жанчыне.

— Ратуйце! Забіваюць! Гвалтуюць! — раптам закрычала немым голасам удава.

З дамоў на вуліцу, як тараканы, выпаўзлі людзі. Сабралася ледзь ці не ўся вёска. Узняўся

# З ХАКАСІІ

клалі пачатак развіццю хакаскай літаратуры. Першыя хакаскія пісьменнікі Васіль Кабякоў, Канстанцін Самрын, Георгій Кучандаеў, Андрэй Кузугашаў, Міхаіл Кокаў стваралі свае вершы і песні па ўзоры народнай творчасці. Выкарыстоўваючы рытміку і мастацкія сродкі фальклору, яны ўкладвалі ў свае песні новы змест. Натхнёныя ідэяй сацыялістычнага пераўтварэння Хакасіі, яны ўслаўлялі свабодную працу, партыю і вялікага правадыра народа У. І. Леніна, якія прынеслі свабоду і шчасце ў хакаскія стэпы.

**Хакасія!**
**Як хмара, люты,**
**Не страшны болей хан табе.**
**Дачка краіны ты магутнай**
**І з ёй расцеш у барацьбе!**

Першыя хакаскія пісьменнікі, не маючы сваіх нацыянальных мастацкіх традыцый, вучыліся ў рускіх пісьменнікаў, перакладалі іх творы, далучаліся пад іх уплывам да літаратуры сацыялістычнага рэалізму. Не выпадкова першыя аповесці В. Кабякова «Айдо» і Г. Кучандаева «Майорнын о с к е н !» («Жыццё Маёра») насілі аўтабіяграфічны характар. Яны былі напісаны пад непасрэдным уплывам твораў М. Горкага і іншых савецкіх пісьменнікаў.

Новы чалавек — будаўнік сацыялізму, новы побыт і ўзаемаадносіны вольных народаў і свабодная праца сталі асноўнай тэмай творчасці хакаскіх пісьменнікаў.

**Не, недарма**
**песню спяваю,**
**Гора няма —**
**ні шамана, ні бая.**
**Маеш, народ,**
**пашы, атары.**
**Пенься штогод,**
**поўная чара.**

У перыяд Вялікай Айчыннай вайны ў літаратуру прыйшлі новыя сілы: Мікалай Дамажакаў, Іван Коцюшаў, Іван Касцюкоў, Міхаіл Аршанаў. Патрыятычны матыў паэзіі хакаскіх пісьменнікаў гэтых гадоў арганічна ўліваўся ў шматнацыянальную савецкую паэзію. Хакаскія пісьменнікі ў сваіх вершах ўслаўлялі перавагу маральных і духоўных сіл савецкага народа, перавагу савецкага ладу, дружбу народаў СССР. Заклікалі савецкі народ «непарушнай сцяной» стаць на абарону Радзімы. Дружбе народаў прысвечана паэма Н. Дамажакава «Сястра», што найбольш поўна адлюстравала тэму вайны, паэт расказвае пра рускую дзяўчыну Галіну, якая вынесла з поля бою салдата-хакаса і аддала сваю кроў для яго выратавання. Дружба народаў, мужнасць і гераізм савецкага народа, адзінства фронту і тылу зрабілі неперамажнай нашу Радзіму.

**Мая Радзіма! Для цябе**
**Аднолькавыя ўсе народы,**
**Яднаеш іх у барацьбе,**
**У працы час,**
**У дзень нягоды.**

**Калі на дальнім рубяжы**
**Упадзе салдат пад чорным небам,**
**Крыві дадуць яму дажджы,**
**Жыццё — сябры, як будзе трэба.**
**Вось куля рускага знайшла —**
**Хакасу свет ад болю вузкі.**
**Калі хакаса апякла —**
**На дапамогу прыйдзе рускі.**
**Хай славіцца наш край такі,**
**Непераможны на вякі.**

Хакаская савецкая літаратура за кароткі тэрмін прайшла паскоранае развіццё ад чатхана, г. зн. вусна-паэтычнай творчасці, да рамана.

Калі ў трыццатыя гады хакаская паэзія ўслаўляла жыццё і працу нядаўна вызваленага жывёлавода, пастуха, паляўнічага, гаварыла аб разняволенні жанчыны і росце культуры, то ў пасляваенныя гады яе змест паглыбіўся. Пасляваеннае будаўніцтва, рост эканомікі і культуры, дабрабыту народа дае багаты матэрыял для паэтычнай творчасці. Паэты ўслаўляюць вялікія будоўлі, мірную працу на роднай зямлі.

Вядучую ролю ў хакаскай літаратуры ў апошнія гады адыгрываюць кандыдат філалагічных навук, дацэнт Абаканскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута паэт і празаік Мікалай Дамажакаў, выпускнікі Літаратурнага інстытута імя А. М. Горкага паэт і драматург Міхаіл Кільчычакоў, паэт і празаік Міхаіл Чабадаеў, паэт Майсей Баінаў, плённа працуюць пісьменнікі старэйшага пакалення Іван Касцякоў, Іван Коцюшаў, Генадзь Сысаляцін — паэт-перакладчык, маладыя пісьменнікі Сяргей Чаркоў, Каркей Нербышаў, Аляксандр Чарпакоў, Андрэй Халараў і іншыя.

Вершы паэтаў М. Кільчычакова, М. Чабадаева, М. Баінава, І. Коцюшава і іншых публікаваліся ў цэнтральных газетах і часопісах. Усесаюзны чытач знаёмы з іх паэтычнымі зборнікамі, выдадзенымі ў Маскве. Музычная камедыя Міхаіла Кільчычакова «Мядзведжы лог» абышла каля васьмідзесяці тэатраў краіны.

Раман Мікалая Дамажакава «У далёкай зале» быў выдадзен у 1970 годзе «Роман-газетой», а ў 1972 годзе выдавецтвам «Современник». Раман прызнан адным са значных твораў прозы цюркамоўных літаратур Сібіры.

Лёс хакаскага народа ў гады рэвалюцыйнага абнаўлення калісьці «забытай богам» ускраіны Расіі, ломка феадальна-родавых адносін сярод пастухоў і паляўнічых, шлях народа да новага жыцця і яго небывалы духоўны рост пад уплывам ленінскіх ідэй — усё гэта ўмясцілася ў рамкі невялікага сацыяльна бытавога рамана. У рамане моцна гучыць думка аб інтэрнацыянальным брацтве савецкіх народаў, аб'яднаных адзінай вялікай мэтай.

Творы паэта-песенніка Івана Касцякова шырока вядомыя хакаскаму чытачу. Яго песні «Чаромха», «Свету» — мір!», «Абаканскія хвалі» часта гучаць у перадачах Усесаюзнага радыё. За апошнія гады Іван Касцякоў апублікаваў два зборнікі паляўнічых апавяданняў і аповесць «Шаўковы пояс». Яна прысвечана каханню беларускай дзяўчыны Галіны і хакаскага хлопца Паскіра Сартыкава, выпрабаванаму і ўзмацненаму на франтах Вялікай Айчыннай вайны, іх мужнасці.

Значны ўклад у хакаскую паэзію зрабілі М. Чабадаеў, М. Кільчычакоў і М. Баінаў. Іх паэмы «Усяго добрага!», «Думы пра стэп», «Падарожжа ў часе», «Напевы кахання» адлюстроўваюць значныя перамены ў жыцці і духоўным свеце хакаса. Тут мінулае пераклікаецца з сучаснасцю.

Духам народнай паэтычнай творчасці насычана паэзія Міхаіла Кільчычакова. Яго вершы поўныя роздуму аб сэнсе чалавечага жыцця, аб зайздроснай долі маладога пакалення хакасаў.

У апошнія гады, перыяд вялікіх пераўтварэнняў у Хакасіі, атрад пісьменнікаў папоўніўся свежымі сіламі, якія групуюцца вакол альманаха «Ах тасхыл» і газеты «Ленин чолы». У літаратуру прыйшлі маладыя пісьменнікі Г. Тапанаў, К. Нербышаў, А. Чарпакоў, Ф. Бурнакоў, Г. Саражакаў, В. Майнашаў, А. Халараў. Тэматыка і змест іх твораў разнастайныя.

Яшчэ на заранку развіцця мастацкай літаратуры нашы пісьменнікі імкнуліся далучыць свой народ да твораў пісьменнікаў братніх народаў. Цяпер хакаскі народ чытае на роднай мове творы Пушкіна, і Някрасава, Гогаля і Шаўчэнкі, Райніса і Броўкі, Коласа і Танка, Горкага і Шолахава, Шэкспіра і Гюго і многіх іншых класікаў рускай савецкай і зарубежнай літаратур.

Хакаскія пісьменнікі пастаянна адчуваюць увагу і клопаты з боку КПСС і яе кіроўных органаў, праўленняў Саюза пісьменнікаў СССР і РСФСР. Пастаянныя творчыя сувязі з прадстаўнікамі братніх народаў, ўзаемапераклады твораў, правядзенне тыдняў літаратуры і мастацтва ў суседніх нацыянальных раёнах і краі садзейнічаюць росту майстэрства нашых пісьменнікаў. У ліпені 1964 года ў Хакасіі і Тувінскай АССР праходзіў тыдзень літаратуры Беларусі. У гасцях у хакаскага чытача пабывалі беларускія пісьменнікі Пятрусь Броўка, Максім Танк, Ніл Гілевіч, Рыгор Барадулін, Павел Кавалёў, Міхась Калачынскі, Янка Скрыган, Анатоль Вялюгін. У гэтыя дні абласная газета «Ленин чолы» апублікавала вершы і апавяданні беларускіх пісьменнікаў у перакладах М. Чабадаева, Н. Дамажакава, І. Коцюшава, В. Угдыкекава, І. Касцякова.

Маладая хакаская літаратура развіваецца як адна з раўнапраўных у вялікай сям'і шматнацыянальнай савецкай літаратуры.

**І славіць сталіца яе адраджэнне —**
**Хакасіі — самай малодшай сястры.**
**Жыві і красуйся на мір і цвіценне,**
**З табой назаўсёды ў дарозе сябры.**

**А. КЫЗЛАСАВА,**
**малодшы навуковы супрацоўнік сектара літаратуры і фальклору Хакаскага навукова-даследчага інстытута мовы, літаратуры і гісторыі.**



шум, лаянка. Бабы плачуць, мужыкі пагражаюць, трасучы над галавой дужымі кулакамі.

Харчатрад сабраў збожжа і паехаў.

Услед яму з натоўпу пачуўся свіст.

Потым пайшлі размовы:

— Прагаладаліся Саветы!

— Нават мяшок з лебядой забралі...

— Гавораць, за народ ваююць, а самі...

— Да баб прыстаюць.

Выкарыстаўшы мітусню, багацеі адышлі ўбок, параіліся і вырашылі адбіць павезенае збожжа.

Піліп, Япык з сынам і яшчэ некалькі мужыкоў, як зграя ваўкоў, не марудзячы, пагналіся за харчатрадам.

□

У гэты час другая група харчатраднікаў на чале з Івуком Філіпавым ехала з цяжка гружанымі санямі з Сасноўкі. Выехала адтуль глыбокай ноччу. Справа там абышлася без сутычак, і збожжа сабралі многа. Чырвонаармейцы былі стомленыя, але ўзбуджаныя і вясёлыя.

У лесе стаяла глухая цішыня. І тут адчувалася набліжэнне вясны. Скінуўшы з вяршыні калматыя белыя шапкі, чарнелі дрэвы, у ноздры біў моцны пах нагрэтай за дзень смалы і хвоі. Ледзь не чапляючыся за верхавіны дрэў, над лесам плылі нізкія, цяжкія воблакі.

... Вось ужо тры гады, як Івук не быў дома і раптам нечакана-негадана трапіў у родныя мясціны. Добра б убачыцца з маці... Ды і з бацькам хочацца сустрэцца. Ці змяніўся ён?

Здасць Івук збожжа, і можна будзе на гадзіну-другую заглянуць дамоў. Напэўна, абрадуюцца. Як-ніяк, а дом родны.

Раптам з цёмных кустоў з'явіліся нейкія людзі. Двое схапілі пад вуздэчку пярэдняга каня.

«Дэзерціры!» — падумаў Івук.

— Прэч! Страляць буду!—закрычаў чырвонаармеец з пярэдняй падводы. Але не паспеў ён узяцца за вінтоўку, як яго збілі з мяшкоў.

Перад Івуком вырасла вельмі знаёмая, доўгая, як жэрдка, фігура старога. Хто гэта — успамінаць няма калі. Івук ускочыў у сані, агрэў жарабца пугай. Жарабец, рвануўшы, абышоў пярэднюю падводу. Але сані зачапіліся і перакуліліся ўбок.

Івук упаў у снег.

Жарабец матаў мордай, стараючыся пазбавіцца ад учэпістай хваткі доўгага старога, але, падпарадкоўваючыся жылістым жалезным рукам, павярнуў к гушчару і ўпёрся ў векавую сасну. Хруснула аглобля.

Хтосьці чэраўна ўскрыкнуў...

Па лесе пракаціўся выстрал, яшчэ адзін...

— А-а, ты страляць?

Івуку голас здаўся знаёмым. «Ці не сусед? Сапраўды, ён! Гэта Япык па-мядзведжы падмяў нашага пад сябе...» Івук выстраліў. Але тут жа, збіты моцным ударам, упаў тварам у снег. Усё наўкола паплыло...

Харчатраднікі ўсе палеглі на дарозе — хто з разбітай галавой, хто з куляй у сэрцы.

Узняўся вецер, пачаўся буран. Бандыты хрысціліся: і бог за іх!..

Япык снегам вымыў скрываўленыя рукі, выцер іх крысой кажуха і падышоў да жарабца. Але той, пачуўшы рэзкі пах самагона, матнуў мордай, вырваўся і панёсся па дарозе к сялу.

— Што стаіш? Лаві! — прыкрыкнуў Япык на сына, але, успомніўшы, што той кульгавы, безнадзейна махнуў рукой. — Даставай бутэльку.

Піць спакойна не мог. Дрыжалі рукі, халоднае рыла бутэлькі стукала аб зубы.

Уклаўшы сваіх раненых і забітых наверх мяшкоў са збожжам, бандыты звярнулі на старую дарогу, якая вядзе да хаты лесніка. Ужо ад'ехаўшы даволі далёка, заўважылі, што няма Піліпа.

— Калі жывы, сам знойдзе дарогу, — сказаў Япык.

□

Івук апрытомнеў і пачуў дзесьці недалёка стогн...

Было ўжо светла. За рэдкім ляском гарэла барвовая зара. Неба праяснілася. Снег пасля сціхлага бурану іскрыўся пад сонцам, пад ім сям-там прасвечвалі карычневыя плямы, а па абодвух баках дарогі бугрыліся паўзанесеныя трупы...

... Стогн паўтарыўся. Івук, перасільваючы боль, павярнуў галаву і ўбачыў, што пад сасной ляжыць чалавек і непаслухмянымі адубелымі пальцамі спрабуе набраць снегу.

«Хто ж гэта?» — падумаў Івук. Цягнучы апухлую нагу, ён падпоўз да раненага і, набраўшы ў жменю снегу, павярнуў да сябе галаву незнаёмца...

— Бацька! — Івук лёгка, каб не прычыніць болю, пагладзіў бацьку па шчацэ. — Бацька!

Піліп адкрыў адно вока, пільна паглядзеў на схіленага над ім сына, на чырвонаармейскі шлём.

І шурпатыя, у сініх жылах, старэчыя пальцы пацягнуліся да яго горла. Але задрыжала, не дацягнуўшыся, бацькоўская рука і бяссільна ўпала. З рота старога выцек чорны згустак крыві, і адна кропля, аддзяліўшыся, застыла ў яго сівой барадзе...

Свая кроў... Чорная кроў...

□

Раніцай харчатраднікі злавілі ў рванай збруі з крывавымі плямамі жарабца, які насіўся па сяле. Так даведаліся аб страшнай трагедыі, што адбылася на лясной дарозе.

Загінуўшых чырвонаармейцаў пахавалі з воінскімі ўшанаваннямі. Бандыты ў хуткім часе сталі перад судом.

А маці Івука не ведала, што рабіць: ці то хаваць мужа, ці то сядзець ля пасцелі сына, які ўвесь час трызніў...

Пераклад з марыйскай.

## НЕЗАБЫЎНЫЯ СУСТРЭЧЫ



Кастусь Кірэенка і Юрый Збанацкі.



Юлій Ванаг і Іван Шамякін.



Пімен Панчанка (другі справа) знаёміць з Мінскам гасцей з Кара-Калпацкай АССР С. Саліева, Д. Айтмуратава і К. Саіпава.



Мумін Канаатаў і Генадзь Бураўкін.

Фота Ул. КРУКА.

ПЕРАКЛІЧКА СЯБРОЎ

Эўгеніюс МАТУЗЯВІЧУС

Літва

## БЕССМЯРОТНАСЦЬ

Вы, хто памёр
у холадзе, у брудзе,
у палоне,
ад тыфу, ад голаду, ад ран,
Вы, каго павесілі
на вуліцах і плошчах Адэсы,
Мінска, Пскова,
каго расстралялі ля сцен
Варшавы, Белграда, Львова
(калі перамога была ўжо
недалёка), —
Вы сёння з'яўляецеся, ва ўсёй
сваёй сутнасці,
як крык папярэджання
перад новай пагрозай.
Вы, хто памёр
у Штутгофе, у Майданеку,
у Панерай,
у каўнаскіх фортах,
Вы, хто памёр
у ледзяной вадзе карцараў
і на калючых дратах,
Вы сёння з'яўляецеся, ва ўсёй
сваёй сутнасці,
і як прысуд,
і як сумленне часу.
Пакуль жыве пра вас памяць,
Жывеце і вы самі.
І вы побач з намі,
Калі мы выбіраем;
За каго? З кім?

Вы сёння з'яўляецеся, ва ўсёй
сваёй сутнасці.
Вы — у нас. Вы — у жыцці.
Вы — мы.
Сутнасць. Выбар.
Вы, паміраючы,
Напісалі на сцягах часу
Свае імёны
І накрэслілі запавет
Будучым пакаленням.

Пераклаў А. ВЯРЦІНСКІ.

Сяргей ГРАХОЎСКІ

# ТАЙМЫР,

### З ДАРОГІ Ў ДАРОГУ

ВОСЬ І КОНЧЫЛАСЯ гарачае лета. Пусцеюць вакзалы і аэрапарты, спяшаюцца дадому загарэлыя адпускнікі. А ў мяне знаёмыя часам пытаюцца: «Як адпачывалася?» І я жартую:

— Загараў пад запалярным сонцам, піў ваду з Катуні, Обі і Енісея, праляцеў на самалётах і верталётах, праплыў на параходах тысячы кіламетраў. Ад зморы не чуў ног, а душою акрыяў і памаладзеў, надыхаўся смольным таёжным ветрам, наглядзеўся, што іншы і за ўсё жыццё не ўбачыць. Можа гэта і ёсць найлепшы адпачынак, «абагачальная» сфера прыроды і людзей, без якой посна і сумна жыць.

Жарты жартамі, а сёлетняе лета было ў мяне самае багатае на падарожжы, уражанні і сустрэчы. Чэрвень прашумеў закаласелымі стэпамі Кулунды, горнымі рэкамі Алтая, адшугаў вогнішчамі на ўзбярэжжы шырокай Обі, узбагаціў знаёмствамі з добрымі людзьмі, звёў і падружыў з пісьменнікамі Масквы і Ленінграда, Іркуцка і Уфы, Новасібірска і Ташкента, Казані і Баку. А сустрэчы з добрымі сябрамі — самае вялікае багацце, свята душы, дзелавая ўрачыстасць нашай дружбы. Мабыць, супольныя паездкі пісьменнікаў усіх братніх рэспублік — самае яскравае сведчанне дружбы савецкіх народаў, братэрства нашых літаратур, сведчанне асабістай увагі і павагі, павышанай цікавасці да творчасці тваіх сяброў і іхніх сяброў, да жыцця народаў-братоў. А літаратура была і будзе люстрам душы народнай.

У ліпені разам з Генадзем Бураўкіным, Нілам Гілевічам, Іванам Грамовічам, Алесем Савіцкім і пляменніцай Янкі Купалы Ядвігай Раманоўскай прыляцелі ў спякотны Ленінград. Канчаліся белыя ночы. Горад на Няве святкаваў юбілей нашага вялікага песняра. Ленінградцы слухалі Купалавы вершы ў арыгінале і ў перакладах М. Браўна, М. Камісаравай, Б. Кежуна, Л. Хаўстава. Беларускае слова гучала ў цэхах Неўскага машынабудаўнічага завода і оптыка-механічнага аб'яднання, у воінаў Ленінградскай ваеннай акругі, вершы і ўспаміны пра Купалу слухалі мільёны ленінградцаў па тэлебачанні. А піянеры Балтыйскага завода ў сваім цудоўным лагеры на ўзбярэжжы Фінскай затокі парадавалі ўсіх вялікім канцэртам з беларускіх песень, вершаў і казак.

Разам з ленінградскімі сябрамі мы прыехалі на 4-ю лінію Васільеўскага вострава, да дома № 45, дзе некалі малады Купала пісаў свайго «Гусляра» і «Шляхам жыцця», дзе марыў пра вольную і шчаслівую Беларусь. А побач стаіць дом, у якім жыў і тварыў вялікі Кабзар. Пецярбург — Петраград быў калыскаю многіх літаратур, прытулкам вялікім сынам братніх народаў. Ленінград і ленінградцы верныя традыцыям братэрства. Іх сардэчную ўвагу і шчырую любоў мы адчуваем на кожным кроку. Даўняя дружба з ленінградскімі пісьменнікамі ўзмацнела яшчэ больш, мы ўзбагаціліся новымі сябрамі.

У Смольным, побач з пакоямі, дзе жыў і працаваў Ленін, у гутарцы з сакратаром Ленінградскага абкома КПСС З. Кругловай ленінградскія і беларускія пісьменнікі дамаўляліся аб узаемным выданні анталогіі паэзіі Беларусі і Ленінграда. Гэта сімвалічна. І вельмі канкрэтнае развіццё шчырай дружбы братніх народаў і літаратур.

А жнівень пачаўся самым незабыўным падарожжам па маршруце Мінск — Масква — Краснаярск — Дзіўнагорск — Ігарка — Дудзінка — Нарыльск.

### ЕНІСЕЙСКІЯ СУСТРЭЧЫ

Наша беларуская група — Янка Брыль, Алесь Адамовіч, Мікола Аўрамчык, Дзмітрый Бугаёў, Навум Кіслік і я — даўно «прыцерлася» ў далёкіх падарожжах. Вельмі важна, калі ў дарозе ёсць узаемнае разуменне, увага і блізкасць, кантакт характараў і настрояў. Гэтыя акалічнасці стварылі атмасферу прастаты, лёгкасці і весялосці адносін, рабілі падарожжа радасным і асабліва цікавым. Кожны з нас адчуваў, што прадстаўляе літаратуру і народ, імкнуўся несці свой «паўпрэдаўскі» абавязак з гонарам. Дарэчы, хочацца лішні раз напомніць маладзейшым таварышам: дзе б вы ні былі, заўсёды памятайце, каго вы і што прадстаўляеце.

Мабыць, хопіць адступленняў і вандроўніцкіх эмоцый!

Наш «літаратурны» «ІЛ-18» адарваўся ад напаленага, як патэльня, Дамадзедаўскага аэрапорта і ўзяў курс на ўсход. У кожным салоне чулася руская, узбекская, чувашская, беларуская, татарская гаворка.

Мы ляцелі насустрач ночы. Над намі мігцелі зоры, а ўнізе — разлівы агнёў на прасторах Сібіры. Мы абагналі час на чатыры гадзіны. Краснаярск сустрэў нас у поўнач шматколер'ем рэклам і вітрын, шчодрым электрычным святлом вялікага люднага горада. І гасцініца на самым узбярэжжы шырачэзнай ракі завецца «Агні Енісея».

А раніцаю вялікая літаратурная сям'я паснедала за адным сталом і адразу ўключылася ў таропкі, імклівы рытм работы: адкрыццё Дэкады савец-

Сурэн МУРАДЗЯН

Арменія

**ПРАДАВЕЦ КВЕТАК**

Вясенні дзень развеяў хмары.
Па вуліцах народ снуе.
На людным месцы ля бульвара
Дзядуля кветкі прадае:

Фіялкі сінія, як неба,
Канвалії, півоняў жар...
Стары ўсміхаецца: не трэба
Яму хваліць такі тавар.

Вунь колькі сэрцаў закаханых,
Паглядаў палкіх, трапяткіх!
Ці ж таргавацца хлопцы
станунь
За нейкія там пятакі?!.

Дзядулю ж радуюць
не грошы, —
Не згоніш імі сівізну! —
Ён раздае людзям харошым
Сваю апошнюю вясну.

Жывы букет, нібы прычасце,
У кожную кладзе далонь,
Бо хоча, каб нашчадкаў шчасце,
Як кветкі гэтыя, цвіло.

Пераклаў Хв. ЖЫЧКА.

Алег ШАСЦІНСКІ

Расія

**РАЗМОВА З ЛЕЙТЭНАНТАМ АВІЯЦЫІ**

— Я нявесту тваю люблю.
Лейтэнант маўчыць.
— Я пяшчотай яе атулю.
Лейтэнант маўчыць.
— Што маўчыш? Я не глупства
мялю...
Лейтэнант маўчыць.
— Можа, я яе разлюблю...
Лейтэнант устае.

Лейтэнант мёртвы,
ён упаў з вышыні ў ваду.
Лейтэнант мёртвы,
і я з мёртвым гаворку вяду.

Памыляюцца ў небе адзін
толькі раз —
валасы пераблытаны,
позірк пагас.
Да мяне падышоў,
у імклівым рыўку
на плячо палажыў трапяткую
руку.
Ён не мае цяпер ні двара,
ні кала.
Быццам неба, любоў у яго
была
да дзяўчыны семнаццаці год...

Яна плакала ад журботных
турбот.

Мы стаім твар у твар —
жывы і мёртвы стаім,
не равеснікі,
не саппернікі з ім.

Воблік твой паўстае
прада мной, лейтэнант,
я не дам у крыўду яе,
лейтэнант.

Лейтэнант да мяне
падыходзіць
бледны, нібы сцяна,
заслона з вачэй спадае,
як штора з акна.
І я ўпершыню любоў
спасцігаю,
і я ўпершыню адчуваю,
што мацней за ўсё на зямлі —
яна.

Пераклаў П. МАКАЛЬ.

Генадзь МАЦЮКОЎСКІ

Мары

**ЛОСЬ**

Калі ў аблоках калыхаўся
месяц,
Да возера ляснога ўранні ціха—
Гадоў мо пяць таму назад
ці дзесяць—
З ласём на вадапой прыйшла
ласіха.

Лось помніць добра:
У світальнай цішы
Раздаўся стрэл смяротны
браканьера.
Напуджаны і ледзь жывы
ён выйшаў
І што няма ласіхі —
не паверыў.

Сівы, нібыта прысак,
Шэры, злосны,
Блукае лось па лесе адзінока.
Я з ім сустрэўся,
Дзе шумелі сосны,
Дзе сіні плёс разгойдваўся
шырока...

Пераклаў І. КАЛЕСНІК.

# ТАЙМЫР...

кай літаратуры на самай прыгожай у горадзе плошчы Рэвалюцыі, сустрэчы з чытачамі на кніжным базары, выступленні на прадпрыемствах, у парках, маладзёжных інтэрнатах, на агітпляцоўках новых мікрараёнаў. Усе ледзь паспявалі з аднаго выступлення на другое. І ўсюды горача сустракалі літаратараў зацікаўленыя аўдыторыі — ад піянераў да пенсіянераў. Вярталіся ў гасцініцу ноччу, але ўзбуджэнне і розніца ў часе, да якое не адразу прывыкаеш, не давалі заснуць. Мы дапазна блукалі па горадзе і па прыгожай узбярэжнай шырокага, залітага мігатлівымі агнямі Енісея.

Асобна, непадалёк ад прычалу рачнога порта, стаіць невялікі параходзік з дзвюма чорнымі трубамі і выразным надпісам на борце «Св. Мікалай». Гэта той самы «Св. Мікалай», на якім у 1897 годзе Уладзімір Ільіч Ленін разам са сваімі сябрамі адправіўся з Краснаярска ў Шушанскую ссылку. Цяпер тут музей.

На многіх дамах, якія шчыра зберагаюць краснаярцы, мемарыяльныя дошкі паведамляюць, што тут жыў, бываў, працаваў, сустракаўся з сібірскімі марксістамі Ленін. Ідзеш па вуліцах і чытаеш на мармуровых плітах жывую гісторыю барацьбы ленінскай партыі за наш сённяшні светлы дзень. Уяўляеш, што некалі пры газнічцы ў завеяным сумётамі доміку ссыльны Ільіч марыў пра наша братэрства, пра росквіт прыгнечаных народаў, пра электрастанцыі на берагах Дняпра, Ангары і Енісея. А мы ўбачылі здзейсненай ленінскую мару. Убачылі тут, на магутнай сібірскай рацэ, славутую Краснаярскую ГЭС і новы, пранізаны святлом бярозавых гаёў і блакітам віратлівых хваляў, горад. Дзіўнагорск вымкнуў з-за крутога павароту горнай дарогі: ад схілу сапраўды дзівоснай гары да самага берагу выраслі прыгожыя сучасныя дамы самых нечаканых колераў і адценняў. Жоўтыя, сінія, аранжавыя балконы, ружовыя і блакітныя фасады адразу ствараюць святочны настрой, весяляць душу сваёй маладосцю і святлом. Горад сапраўды маладзёжны, камсамольскі. На будаўніцтва Краснаярскай ГЭС аднымі з першых прыехалі беларускія камсамольцы з Іванаўскага раёна. Былі палаткі і баракі, завіруха і марозы. Усё перажыла дружная шматмоўная сям'я маладых. У жніўні 1959 года ў бурныя хвалі ракі быў скінуты першы камень з надпісам «Скарыся, Енісей!» Тут ён з абодвух бакоў сціснуты высокімі горамі, дно вымашчана гранітам, будаўнічы матэрыял — побач. Намаганнямі тысяч неадольных будаўнікоў узнялася плаціна на 124 метры ўвышыню і працягнулася па грабяні на 1100 метраў. Бетону, укладзенага ў цела плаціны, хапіла б на шырокую аўтастраду ад Масквы да Краснаярска — на ўсе 4 100 кіламетраў.

Краснаярская ГЭС цяпер самая буйная ў свеце. Яе магутнасць 6 мільёнаў кілават. Электрастанцыя абсталявана ўнікальнымі гідрагенератарамі па 508 тысяч кілават кожны. У бясконцай машыннай зале ледзь чутны гул і амаль не відно людзей: 5—6 чалавек сочаць за прыборамі, за галоўным пультам сядзіць адзін энергетык і назірае за дзейнасцю самай дасканалай аўтаматычнай і вылічальнай тэхнікі. Мы праехалі па плаціне, глядзелі на горад і пенныя буруны Енісея з галавакружнай вышыні, а за плацінаю разлілося шырокае Краснаярскае мора. Па берагах там-сям тырчаць верхавіны затопленых сосен і лістоўніц.

Але ж плаціна перарэзала галоўную транспартную артэрыю Сібіры. Усе грузы на Поўнач за кароткую навігацыю ідуць па Енісею. Перад гідрабудаўнікамі стала складаная задача, і яны яе паспяхова вырашылі. Заканчваецца збудаванне ўнікальнага суднапад'ёмніка, які ў спецыяльнай «ванне» будзе перацягваць цеплаходы і дызельэлектраходы праз стометровую плаціну, і яны будуць ісці без перапынку ад створа Саянскай ГЭС да вусця Енісея. Мы бачылі, як укладаюцца спецыяльныя рэйкі, абсталёўваецца паваротны круг і манціруецца тая першая ў свеце «ванна» для караблёў.

Дзіўнагорск, як ўсе новыя будоўлі, тыповы інтэрнацыянальны горад, тут дружна жывуць і працуюць, вучацца і гадуюць дзяцей прадстаўнікі ўсіх рэспублік і нацыянальнасцей Краіны Саветаў.

Але самае цікавае, хвалюючае і рамантычнае наперадзе. Мы едзем...



Нарыльск, 1972.

### У КРАЙ СОНЕЧНЫХ І ПАЛЯРНЫХ НАЧЭЙ

Да нашай беларускай групы далучыліся маскоўскія паэты Ірына Валабуева і Сяргей Вікулаў. Сышліся і пасябравалі адразу.

Сонечнай жнівеньскай раніцай ідзем на рачны вакзал. Гэта зусім побач. Астравы на Енісеі патанаюць у блакітнай смузе, па вадзе імчацца «Ракеты» і «Метэоры», тарахцяць маторкі, спяшаюцца гружаныя баржы. Пасля спякотных дзён раніца свежая, чыстая і вільготная. Таму не спяшаемся, разглядаем рэдкія старыя дамы. На чырвоным цагляным доме № 72 на вуліцы Дубровінскага мемарыяльная дошка. Тут некалі было паліцэйскае ўпраўленне, у якім У. І. Ленін, А. А. Ванееў, Г. М. Кржыжаноўскі, В. В. Старкоў рэгістраваліся як гласныя палітычныя паднаглядныя і атрымлівалі праходныя пасведчанні.

Мемарыяльная дошка і на рачным вакзале. Будынак новы, але адсюль некалі на «Св. Мікалаі» адплываў Ленін у Шушанскае, глядзеў на гэтыя астравы і берагі, думаў аб будучым народаў Расіі. Імя Леніна з намі было заўсёды, здзейсненыя ленінскія запаветы радавалі і здзіўлялі на кожным кроку.

Каля прычалу стаяў беленькі прыгожы дызельэлектраход «Антон Рубінштэйн» — наш плывучы дом на чацвёра сутак. Швартаваліся і выходзілі ад прычалаў «Пётр Чайкоўскі», «Сяргей Пракоф'еў», «Мадэст Мусаргскі» — цэлае сузор'е айчынных кампазітараў, увасобленых у параходы блакітнай сібірскай магістралі. Наш цеплаход пасажырскі, але ўсе трумы і палубы забіты бочкамі, скрынямі, мяхамі з гуркамі, цыбуляй, яблыкамі і капустай. За тры месяцы навігацыі на Крайнюю Поўнач трэба перавезці мільёны тон грузаў — абсталяванне для шахтаў і геалагічных партый, заводаў і фабрык, прадукты на доўгую зіму, прамтавары і падручнікі, цэмент і цацкі для маленькіх дудзінцаў і нарыльчан. Таму ўсе параходы і цеплаходы грузяцца «па завязку».

Прагудзеў развітальны гудок, адплылі прычалы, паменшалі, а хутка зніклі зусім заводы і дамы Краснаярска. Злева і справа — зялёныя маляўнічыя астравы. На іх утульныя жоўтыя і блакітныя дамы адпачынку, турыстычныя базы, прафілакторыі, піянерскія лагеры. Па берагах узнімаюцца скалістыя горы, зарослыя векавымі соснамі і лістоўніцамі, кустамі шыпшынніку і глогу. Чым далей на Поўнач, усё радзей і радзей сустракаюцца прыстані і сёлы. А там, дзе спыняемся, каля сходняў мноства людзей — сходзяць і садзяцца геолагі, буравікі, рыбакі і паляўнічыя, лесаводы і трактарысты. Такое ўражанне, што тут усе ведаюць адзін аднаго, хоць і жывуць за сотні кіламетраў.

На змярканні ўсе пасажыры высыпалі на палубу і ўглядаліся за правы борт. «Ангара! Ангара!»—галасна віталі сустрэчу дзвюх магутных сібірскіх рэк. А хутка ўсе пільна і трошачкі трывожна сачылі, як наш «Антон Рубінштэйн» праходзіў праз Казачынскі парог. Тут Енісей сціснуты камяністымі гарамі да 700 метраў, а на дне залегла камяністая града з вузкімі пратокамі. На масціку наш пасівелы, вопытны і заўсёды спакойны капітан Мікалай Мікалаевіч Балакін. Трыццаць пяць гадоў ён водзіць судны па Енісею, адкрывае і закрывае навігацыю, не раз хадзіў да Дзіксана, за ледаколамі вёў цеплаходы па Ледавітым акіяне. У вольныя ад вахты гадзіны ён нам расказваў пра норавы і прыгажосць Енісея, пра сёлы і гарады на яго берагах:

— Тысячы людзей мы перавезлі на Поўнач,— расказвае Мікалай Мікалаевіч. Мільёны тон грузаў дастаўляем у Дудзінку і ў Нарыльск—і ўсё мала. Асабліва люблю плаваць ранняй вясной, услед за вялізнымі крыгамі, і калі закруціць першая пурга.

Мікалай Мікалаевіч даўно мае права на пенсію, але пра спакой і не думае, не можа без Енісея, а Енісею патрэбны такія, як капітан Балакін. Ён у душы паэт. Бо толькі паэт можа так захапляцца суровай прыгажосцю, так натхнённа расказваць пра астравы, перакаты і парогі, пра халодныя ночы з калючымі зорамі і туманныя світанні. Ён ведае і любіць класічную і сучасную паэзію, сябруе з многімі сібірскімі пісьменнікамі.

Ноччу праплылі залітыя агнямі Енісейск, Назімава і Туруханск. На высокім правым беразе ў сасновым бары

(Заканчэнне на 10—11-й стар.)

50 год утварэння СССР

*З БЛАКНОТА ЖУРНАЛІСТА*

# ФАРБЫ МАТЭНАДАРАНА

У ГЭТЫМ ХРАМЕ ніхто не павышае голасу. Тут, у Інстытуце старажытных рукапісаў імя М. Маштоца — Матэнадаране, пануе цішыня, быццам народжаная ў глыбіні вякоў.

На стэлажах выставачнай залы — пажоўклыя ад часу рукапісы: маленькія, з дзіцячую далонь, і велічэзныя — такія велічэзныя, што на адзін пергаментны ліст, калі верыць экскурсаводу, патрабавалася скура гадавалага цяляці...

У залах Матэнадарана пранікаешся асаблівым адчуваннем мінулага сонечнай Арменіі.

Вось велічная постаць Месропа Маштоца. У яго шырокі, прыветны жэст, у гэтага сялянскага сына, у гэтага асветніка, — як у нашага Скарыны... Вялікі сын Арменіі быццам вітае нас, удзельнікаў V Усесаюзнага фестывалю літаратурнай моладзі братніх рэспублік...

Яшчэ ў 405 годзе М. Маштоц стварыў азбуку — накрэсліў на пергаменце літары, якімі і сёлета армянскія першакласнікі напішуць словы «мама», «мір», «радзіма»...

«Горад ружовага каменю...» Толькі ў самім Ерэване можна глыбока ўсвядоміць трапнасць гэтага азначэння — тут мноства дамоў з туфу, які мае вулканічнае паходжанне. Гэты камень пераліваецца пад сонечнымі праменнямі ружовым, зеленаватым, жоўтым тонамі і паўтонамі. Здаецца, лепшага матэрыялу для будаўніцтва і не знойдзеш. А яго ў Арменіі — краіне сонечных гор — не злічыць. Тры чвэрці тэрыторыі запаланілі горы. 900 горных хрыбтоў нагадваюць вострaверхія хвалі мора, што наляцелі некалі на зямлю старажытнага царства Урарту і раптам, асляпленыя высокім сонцам, скамянелі...

Армянскія сяляне высякалі з каменных хваляў жытло. А як навучыліся яны аздабляць камень арнаментам!.. Мы, звыклыя да ўсялякіх дзівосаў нашага атамнага, касмічнага веку, моўчкі стыглі ў захапленні перад старажытнымі храмамі Гарні і Гегард — узорамі самага высокага мастацтва.

У сонечнае надвор'е з самалёта наўздзіў сабе заўважаеш, што горы Арменіі як бы перасякаюцца жоўтымі, чырвонымі, ярка-зялёнымі палоскамі, іграюць усімі колерамі вясёлкі, сатканымі самім Сонцам. Тады не можаш не думаць, наколькі праўдзіва малявaў гэтыя горы Марцірос Сар'ян!..

У армянскіх гарах жоўтыя пустыні затапляюцца зялёнымі аазісамі. Тут стракатыя альпійскія лугі нагадваюць дываны з маленькіх кветак... Надзвычайнае багацце фарбаў сонечнай зямлі. З даўніх часоў армянскі селянін насіў на плячах высока ў горы духмяную, пульхную зямлю, каб узгадаваць на ёй прасоленае працоўным потам, жоўтае і цвёрдае, як мазалі на далонях працаўніка, зерне пшаніцы, каб вырасціць там, пад воблакамі, дзе птушкі лётаюць, кучаравую вінаградную лазу. Так, рукамі сыноў і дачок Арменіі створана гэтая маляўнічасць...

Ажно звіняць у руках ярка-зялёныя сакавітыя вінаградзіны... «Масіс» — так завецца гатунак. А ёсць яшчэ цёмна-сіні — «Севан», як вада па дне высакагорнага возера. А ёсць і ярка-чырвоны — «Арагацы». Кожны гатунак — па-свойму прывабны, апетытны.

Горы Арменіі даюць народу і іншае багацце — яны захавалі ў сваіх кладоўках амаль усе элементы, што ўваходзяць у табліцу Мендзялеева. А гэта ж — Вялікая Хімія!.. У буйнейшым прамысловым цэнтры Арменіі — горадзе Кіравакане былі мы на хімічным камбінаце, дзе з сыравіны, якую даюць горы Арменіі, вырабляюцца цуды.

А на Ленінаканскім кандэнсатарным заводзе мы пабачылі, як вырабляюць і для нашай Беларусі сілавыя кандэнсатары.

На жаль, у баку ад нашых дарог па Арменіі застаўся Зодскі руднік, дзе працуе Герой Сацыялістычнай Працы, ганаровы грамадзянін нашага Брэста Самвел Матэвасян, якому жыхары горада над Бугам даручылі запаліць вечны агонь, калі адкрываўся мемарыяльны комплекс у гонар гераічнай Брэсцкай эпапеі... Тады побач з Самвелам Матэвасянам сталі яго баявыя таварышы — рускі Анатоль Сцяпанаў, карачаевец Мурадзін Гаджаеў, грузін Майсей Атарашвілі, украінец Андрэй Дудко. Быў на адкрыцці мемарыяльнага комплексу ў Брэсце і Аруцюн Авіцясян, які жыве цяпер у Ерэване. Гэта ён памог мне даведацца шмат чаго цікавага пра сонечную Арменію.

Цяпер я разумею, адкуль тая яркасць малюнкаў у рукапісах Матэнадарана, адкуль тая графічная віртуознасць, адкуль тая насычанасць жывымі чалавечымі пачуццямі. У іх — палітра армянскай зямлі, жывая душа армянскага народа.

Вось спынілася перад нашымі вачыма на імгненне грацыёзная танцоўшчыца — выбегла перад нашыя вочы дзесь з XII стагоддзя. «Была яна вельмі прыгожая, і рукі яе спявалі...» — сведчыць летапісец.

Нібы жывыя, узіраюцца ў нашыя твары зацікаўленымі вачыма акцёры з падмосткаў тэатра Тыграна Вялікага. Адзін з гэтых вось акцёраў, калі ставіліся «Вакханкі» Эўрыпіда, выбег на сцэну са шчытом, на якім «узвышалася жывая» сапраўдная галава рымскага імператара Краса, забойцы легендарнага Спартака...

Маўчаць акцёры, хоць вусны іх адкрыты. Маўчыць Матэнадаран. Маўчаць яго фарбы, якімі так рознакалярова афарбаваны таямніцы гісторыі. Вось чырвоны. Вось ярка-зялёны. Вось сіні. Цёмна-сіні, як пераднавальнічная хваля Севана... Вада... Гэтае кароценькае слова для армянскага селяніна мае такую ж магічную сілу, як і паэтычныя радкі Нарэкацы, паэта-багаборца X стагоддзя. Яго творы настолькі запалі ў душу армянскага народа, што іх і па сёння лічаць гаючымі. І ў наш час здараецца, што над хворым чытаюцца радкі Нарэкацы: ад болю ў галаве — адны, ад хваробы сэрца — другія... Кажуць, памагае!.. Моцна верыць армянскі народ у магічную сілу паэзіі. І вострае адчуванне гэтага ізноў жа дае Матэнадаран.

...Адчыняюцца дзверы, упрыгожаныя карункамі тонкага арнаменту. Гэты арнамент, кажа экскурсавод, нагадвае па форме аздобы дзвярэй Мушскага храма — помніка армянскай архітэктуры XII стагоддзя. Там доўгі час у цёмных скляпеннях зберагаліся «Памятныя запіскі» летапісца Вардана Кафаецы. У гады першай сусветнай вайны дзве простыя сялянкі, згінаючыся ад непасільнай ношы, вынеслі рукапіс — 607 вялізных пергаментных лістоў! — з агню... Не многія старонкі старажытнай кнігі можна адгарнуць: некаторыя счарнелі ў полымі гісторыі, некаторыя — проста скамянелі...

Чырвоны колер полымя, чорны колер апаленых кніжных старонак і зусім малады блакітны колер высокага чыстага неба над сённяшняй свабоднай, шчаслівай савецкай рэспублікай... Вось яны — фарбы Арменіі... І яшчэ: цёмна-сінія, часам зеленаватыя хвалі Севана — возера ў гарах на вышыні дзвюх тысяч метраў над узроўнем мора. Мора над узроўнем мора!... У яго ўпадаюць 30 рачулак і выцякае адна — магутная рака Раздан.

У недалёкім мінулым селяніну трэба было сціснуць камень, каб здабыць з яго гаючую ваду — горы не хацелі выпускаць на паверхню свае крыніцы.

На шляху да Севана я заўважыла чатыры крынічнікі — невысокія каменныя хаткі, дзе «жыве» вада... Гэтыя крынічнікі збудаваў стары селянін на памяць аб чатырох сынах, што гераічна загінулі ў гады Вялікай Айчыннай вайны...

Ёсць яшчэ крынічнік на Сцяпанаванскім перавале — менавіта на тым месцы, дзе Пушкін спаткаў арбу з целам забітага Грыбаедава. А крынічнік Гндэвазскай цясніны выструменьвае светлую славу героям грамадзянскай вайны...

Ідучы па вуліцах Ерэвана, абавязкова звяртаеш увагу на адметны голас «горада ружовага каменю», непадобны да галасоў іншых гарадоў. То раптам акрэсліваецца для слыху лёгкакрылая фартэпіянная мелодыя, то з пад'езда аднекуль выплывае густы бас дзядулі, які прыгадвае народную песню пра жураўля... Здаецца, усе высачэзныя дамы расчынілі дзверы і вокны насцеж і запрашаюць вас у шчодрыя адведзіны прывітальнай сімфоніяй. Але з усіх галасоў армянскай сталіцы выдзяляецца адзін — гэта звонкі голас халоднай серабрыстай вады. У горадзе мноства фантанаў. А ў адным са сквераў з белай мармуровай сцяны выбіваецца на волю найзвančэйшы ў Ерэване струмень. На гэтым каменным палатне рукою мастака створаны мужны воблік армянскага гусана, паэта і кампазітара Саят-Навы, сына ткача. Мабыць, ткаў Саят-Нава свае радкі з кучаравых траў, з кары залацістай вінаграднай лазы, уплятаў у свае вершы ніці маршчы-

# ТАЙМЫР, ТАЙМЫР...

(Заканчэнне. Пачатак на 8-й стар.)

на некалькі кіламетраў раскінуўся піянерскі лагер з домікамі ўсіх колераў, аркамі і спартыўнымі пляцоўкамі. Дзеці махалі нам рукамі і гальштукамі, трубілі ў горны, нешта крычалі. Тут усё лета адпачываюць юныя нарыльчане, гэта іх «лясная рэспубліка».

На світанні некалькі гадзін прастаялі ў тумане. А потым прыгрэла сонца, заіскрыліся хвалі, адкрыліся навігацыйныя знакі на фарватэры і на берагах.

А вось Ігарка. Мне нагадаліся першыя савецкія экспедыцыі на Поўнач, чэлюскінская эпапея, прыезды О. Ю. Шміта ў гэты паўночны порт на Енісеі. Само слова здавалася нейкім іншаземным і рамантычным.

Вялізны порт забіты акіянскімі суднамі, параходамі і грузавымі кацерамі. На адным з іх назва «Мінск». Яму мы асабліва шчыра махалі і жадалі шчаслівага плавання. Дзень і ноч партальныя краны грузяць лес у трумы і на палубы лесавозаў, прымаюць грузы з «мацерыка». Ад прычала па доўгіх крутых усходцах падняліся ў горад і адразу ўбачылі універмаг з назваю «Ягорка». Чаму «Ягорка»? — здзівіліся мы. Аказваецца, на гэтым месцы ў далёкую даўніну пасяліўся енісейскі лоцман Ягорка Шыраеў і ўзяў у жонкі прыгожую эвенку Нельму. Разам хадзілі на звера, разам лавілі рыбу. Нельма мужава імя вымаўляла «Ігорка». Даўно гэта было. А імя засталося, стаўшы назвай пасёлка, порта і горада.

У Ігарцы яшчэ добра грэла затканае лёгкаю смугою сонца, далёка былі відаць новыя пяціпавярховыя дамы партавікоў, а склады парудзелых на сонцы дошак і пілавачніка здаваліся цесна збітымі хатамі нейкага незвычайнага пасёлка. Наперадзе наш апошні прычал.

## ДУДЗІНКА

За трое з паловаю сутак мы праплылі каля 2 тысяч кіламетраў і ўбачылі Дудзінку халодным дажджлівым раннем. Дзяўчаты і юнакі ў куртках і плашчах сустракалі нас добрымі ўсмешкамі, букецікамі кіпрэю і рамонкаў, гасцінна запрашалі на «Таймырскую зямлю». Дудзінка — цэнтр Даўгана — ненецкай нацыянальнай акругі, буйнейшы порт Запаляр'я. Сярод шматпавярховых сучасных дамоў яшчэ стаяць перакошаныя дамкі з бярвення, пахіленыя платы, высока паднятыя ходнікі з дошак цягнуцца з вуліцы ў вуліцу над дзесяткамі тоўстых і тонкіх труб гарадскіх камунікацый. Трубы старанна ізаляваны, а да лініі цеплатрасы туляцца дробныя рамонкі — адзіныя кветкі, што растуць на гэтай зямлі.

Непадалёк ад гасцініцы пачынаюць будаваць новы дом. Але тут не гудуць экскаватары, не капаюць звычайнага катлавана. Пад фундамент любога будынка на глыбіню 10—12 метраў заганяюць бетонныя палі. Чаму ж пахіліліся хаты і платы? Чаму пад кожны будынак забіваюць такія доўгія палі? Чаму ўсе камунікацыі пакладзены на зямлі? Адказ самы просты — вечная мерзлата. Адтане летам зямля на паўметра — і ўсё пахілілася, «паплыло». Вось і патрэбны вялікія намаганні, каб усё будаваць на вякі.

Таймырская нацыянальная акруга — цэлая краіна, што займае плошчу 862 тысячы квадратных кіламетраў. Тут разам працуюць даўганы, ненцы, нганасаны, якуты, эвенкі, энцы, рускія, украінцы, беларусы, грузіны, армяне — дружная сям'я ўсіх савецкіх народаў. Бо багацці паўвострава незлічоныя. Начальнік геафізічнага ўпраўлення Алег Маргуноў паказваў на карце, дзе залягаюць незлічоныя запасы медна-нікелевай і вальфрамавай руды, газу, нафты, і сцвярджаў, што на Таймыры ёсць усе элементы Мендзялееўскай табліцы. Вось і прыходзяць сюды савецкія людзі, каб здабыць для Радзімы гэтыя багацці. Тут працуюць толькі мужныя, толькі моцныя духам, толькі адданыя вялікай справе геолагі, будаўнікі, шахцёры і металургі. Яны перамагаюць непраходную тундру, вечную мерзлату, пяцідзесяціградусныя маразы, палярную ноч і пургу. Таймыр стаў індустрыяльным і культурным цэнтрам Запаляр'я. Тут працуе 50 клубаў і дамоў культуры, дзесяткі бібліятэк, народныя і прафесійныя тэатры, дзеці мясцовага насельніцтва вучацца ў школах-інтэрнатах, а ў дамах і чумах аленяводаў слухаюць і глядзяць перадачы з Масквы і Нарыльска. З Дудзінкі ідзе самая паўночная чыгунка на Нарыльск. 100 кіламетраў мы ехалі каля пяці гадзін. Цягнік часта спыняецца, каб прапусціць эшалоны з тэрміновымі грузамі, вагон хіліцца з аднаго на другі бок: палатно пракладзена па непраходнай дрыгве тундры, не хапае грунту, каб умацаваць насып. Па баках стаяць высачэзныя шчыты. Яны закрываюць чыгунку ад страшэннай зімовай пургі, калі хуткасць ветру дасягае 40 метраў у секунду, калі ляцяць цэлыя горы спрасаванага снегу, валяцца тэлеграфныя слупы і апоры электраперадач, у паветра ўзнімаюцца гружаныя машыны. А чыгунка павінна працаваць бесперабойна. І працуе. Можна ўявіць, якіх намаганняў гэта каштуе людзям.

За акном аднастайная шэрая тундра з мноствам лужын і азярынак, чэзлыя, абскубаныя зімовай пургою маленькія лістоўніцы і там-сям ружовенькія галоўкі кіпрэю, нізкае шэрае неба і дождж.

І раптам сярод аднастайнай тундры, як прывід, узнік прыгожы і светлы горад. Нарыльск! Ён нагадвае Ленінград у мініяцюры: шырокія роўныя праспекты, фасады дамоў без залішніх упрыгожанняў, але, і не падобныя адзін на аднаго. Яркія вітрыны і рэкламы, людныя вуліцы, кафэ, рэстараны, а з рэстаранамі Нарыльска наўрад ці зраўняюцца лепшыя еўрапейскія рэстараны. Толькі на вуліцах ні дрэўца, ні кусціка — вечная мерзлата. На газонах расце рэдзенькі авёс, у вялізных вазах цвітуць кветкі.

Калі выбліскне сонца, горад здаецца па-вясноваму святочны, а горы вакол яго нагадваюць Кактэбель ці Каўказ. Горы гэтыя хаваюць незлічоныя багацці поліметалічных руд. Вось і вырас тут горад і самы паўночны, самы магутны ордэна Леніна горна-металургічны камбінат. Тут амаль усё належыць камбінату: заводы, чыгунка, гасцініцы, дзіцячыя яслі і сады, магазіны, і прафілакторыі, нават тэлестудыя будавалася камбінатам.

Мы былі на рудніках Талнаха, чыталі вершы па-беларуску і па-руску, а нашы землякі прасілі чытаць яшчэ і яшчэ. Пасля выступлення па тэлебачанні не было адбою ад запрашэнняў у госці. Кажуць, у Нарыльску працуе каля 10 тысяч беларусаў. Нам давялося ляцець на верталёце ў тундру да аленяводаў, сустрэцца там з цікавейшым чалавекам, доктарам біялагічных навук Дзмітрыем Васільевічам Савельевым. Ён гадамі жыве ў палатках і чумах, вандруе з аленяводамі, ратуючы аленяў ад пагібельнай заедзі. Калі мы прызямліліся каля трох палатак аленяводаў, выявілася, што камандзір нашага верталёта Альберт Каляснёў — мінчанін, а другі пілот толькі год, як прыехаў з Магілёва.

На ўсіх шахтах Талнаха нам сустракаліся нашы славутыя землякі —

нак, што пасеклі твар яго бацькі. Магчыма... Бо і цяпер памятаюць вершы паэта і любяць іх...

**Не ўсім струмень пякучы піць,—**
**нязвыклы смак у ручая,**
**Не ўсім радкі рукой схапіць,—**
**бо песня з крыламі мая.**
**Не знішчыць слоў і не спаліць,**
**каменным стаў мой верш ў баях.**

Неспакойна б'юць севанскія хвалі аб берагі. Тут, твар у твар з калючым ветрам, думаецца і пішацца толькі пра мужнае, светлае.

І Севан памог разгледзець на армянскай палітры яшчэ адну фарбу: залацістае святло электрычных лямпачак. На адной толькі рацэ Раздан, што напаўняе свае берагі водамі Севана, пабудавана шэсць магутных гідраэлектрастанцый. Возера аддавала людзям свае блакітныя сілы, але ўсе хутка заўважылі, што яно пачало мялець, пакідаючы белыя ад вапны берагі. Севан захварэў... І тады інжынеры вырашылі пабудаваць тунель ледзь не ў паўсотні кіламетраў даўжынёю, па якому вада ракі Арны паплыве ў Севан. Па закліку партыі на будаўніцтва Арнасевана прыехалі вопытныя майстры 37 нацыянальнасцей нашай краіны!.. Работа закіпела!.. І хутка ўжо ў Севан па каменнай вене хлыне блакітная рачная кроў Арны. Дзеля гэтага людзі апускаюцца «пад горы» на глыбіню 500—700 метраў!..

І яшчэ адна незабыўная сустрэча— з горадам Кіраваканам. Ён акружыў сябе горнымі вяршынямі і лясамі, а сам — размясціўся ў глыбокай нізіне. Горад гэты — малады. У педагагічным інстытуце, напрыклад, сярэдні ўзрост выкладчыкаў — не звыш 35 гадоў.

Есць у Кіравакане школа-інтэрнат № 18, якая носіць імя Генрыха Захар'яна, сына армянскай зямлі, героя беларускага народа. У гады Вялікай Айчыннай вайны Генрых Захар'ян быў кіраўніком падпольнай арганізацыі ў Магілёве. Трапіў у рукі фашыстаў у той момант, калі расклейваў на сценах будынкаў антыфашысцкія лістоўкі. Быў расстраляны...

Так расказваў мне пра жыццё мужнага героя дырэктар школы-інтэрната па дарозе да помніка дзвюм тысячам кіраваканцаў, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

Па каменных прыступках падымаліся мы высока ў горы, туды, дзе саракаметровы востраграннны шпіль прабівае цёмна-сіняе вячэрняе неба.

Вечны агонь... Як і ў нашым Мінску, на плошчы Перамогі... Я чула, каля гэтага агню, высока ў гарах, чыталі свае вершы паэты з самых розных куткоў Радзімы — грузін Гіві Алхазашвілі, латышка Інара Роя, украінец Мікола Федунец, малдаванка Марчэла Беня...

Каля Вечнага агню, у полымя якога падаюць час ад часу зоркі з высокага начнога неба Арменіі, паэты, народжаныя пасля вайны, прысягалі бацькам на мове дружбы і вернасці...

На горныя вышыні вядуць прыступкі старажытнага Матэнадарана... Углядаешся ў пакручастыя літары, акуратна выведзеныя рукою летапісца, асцярожна перагортваеш старонкі рэдкіх рукапісаў і дзівішся сіле і мужнасці народа, што стагоддзямі аберагаў скарбы гэтыя ад полымя і вострага меча. Тут, у Матэнадаране, добра разумееш, чаму з кожным годам усё званчэй гучаць словы гусана Саят-Навы, чаму і сёння высякаюць іх залатымі літарамі над уваходам у школы, бібліятэкі, кнігарні: «Палюбі пісьмёны, палюбі кнігу, пяро палюбі...»

Гэтыя словы прагучалі, між іншым, і ў рэдакцыі маладзёжнага літаратурнага часопіса «Гарун» у нашай размове з загадчыкам аддзела паэзіі Маркаранам Гайкам.

Размова пачалася прыкладна так:

— Арменія — калыска натхнення, радзіма гераічнага эпасу «Давід Сасунскі», радзіма Нарэкацы, Саят-Новы, Туманяна, Тэрана, Чарэнца... Радзіма людзей дапытлівага вострага розуму...

Я слухала ўсё гэта. І мне асабліва запомнілася, што адзін з выдатных армянскіх паэтаў Хачатур Абавян, каб самастойна ўпэўніцца ў існаванні так званага «ноева каўчэга», што, паводле сцвярджэнняў царкоўнікаў, знаходзіўся на вяршыні Арарата, падняўся туды, пераканаўся, што яго падманваюць, пачаў шукаць свае, новыя ісціны...

А якія ж думкі, тэмы хвалююць новую, сучасную літаратуру Арменіі? Ці ўзнімаюцца яны, сённяшнія паэты, так высока, як гэта рабілі даўнейшыя, у пошуках новага, нязведанага?

Маркаран усміхнуўся задуменна, адказаў:

— Нядаўна нашы археолагі адкапалі старажытны храм Зварнтоцы. Знайшлі там многа пліт з высечанымі на іх пладамі граната, вінаграду... А на самым вялікім барэльефе—чалавек з прыладамі вінаградара ў руках, архітэктар, галоўны будаўнік Аванэс... Заўважце, у яго руках не было разца або пяра паэта... Вялікі майстар трымаў у руках прылады нялёгкай сялянскай працы... Сімвалічна, ці ж не праўда?.. Менавіта рэалізм, цесная сувязь з сучаснасцю, з праблемамі, што хвалююць увесь савецкі народ, з'яўляюцца асновай плённага развіцця сучаснай армянскай літаратуры...

Калі мы развітваліся з Арменіяй, у глыбінях сэрца нараджалася прагнае жаданне новай сустрэчы.

Да пабачэння, краіна Сонца!.. Добры дзень, краіна Сонца! Добры дзень, Матэнадаран!..

**Вал. НОВІК.**

Ерэван—Мінск.



**З гэтага доміка, пабудаванага ў 1921 годзе геолагам М. Урванцавым, пачынаўся Нарыльск. Тут і сфатаграфаваліся беларускія і маскоўскія літаратары.**

«БелАЗы», а самымі незабыўнымі былі сустрэчы з шахцёрамі і геолагамі, медзеплавільшчыкамі і будаўнікамі, грузчыкамі і маладымі інжынерамі, якія дружна жывуць у адным інтэрнаце. На ўскраіне Нарыльска мы спыніліся каля маленькай драўлянай хаткі. Яе ў 1921 годзе пабудаваў вядомы геолаг Мікалай Урванцаў. Адсюль і пачынаўся Нарыльск, самы паўночны і самы прыгожы, самы добраўпарадкаваны, самы працавіты і самы дружны горад Запаляр'я.

Больш за 13 тысяч маленькіх нарыльчан растуць у яслях і дзіцячых садах горада. Гэта сапраўды **сады** — калідоры і пакоі патанаюць у вазонах і кветках, спяваюць прывезеныя з мацерыка птушкі, скачуць вавёркі, гучыць музыка, дзеці натхнёна малююць і спяваюць, з імі займаюцца выдатныя педагогі і выхавацелі. Яны растуць вартаю зменай сваім бацькам.

Нас зачаравалі і пакарылі нарыльчане, з якімі нам даводзілася сустракацца. Увага, ветлівасць, шчырасць і шчодрасць — адметная рыса кожнага з іх.

Мы выляталі з Нарыльска 14 жніўня, а там з дня на дзень чакалі снегу, хоць леташні снег яшчэ там-сям бялеў у тундры і на схілах гор. Цяпер на Таймыры зіма, пачынаюцца завеі, а ў кастрычніку на 45 сутак схаваецца сонца. Але горад, камбінат, шахты, школы і дзіцячыя сады будуць весела жыць і працаваць, адчуваючы цяпло і ўвагу ўсяе краіны.

Енісей, Ігарка, Дудзінка, Нарыльск адкрылі для нас новыя грані мужнасці, сілы і неадольнай братэрскай дружбы савецкіх людзей, яркія характары нашых сучаснікаў, пра якіх трэба ўсё ведаць і шчыра, натхнёна пісаць.



**У розныя куткі Савецкага Саюза па 600 розных адрасах накіроўваецца прадукцыя Віцебскага дывановага камбіната імя 50-годдзя БССР.**

**Сярод вырабаў гэтага камбіната — шматколерныя дываны, выкананыя паводле матываў беларускага арнаменту, а таксама па арнаментальных матывах Азербайджана, Туркменіі, Украіны, Малдавіі.**

**Сёлета на прадпрыемстве распрацаваны і ўкаранёны ў вытворчасць трыццаць новых малюнкаў дываноў.**

**На здымку — мастацкая майстэрня. Мастакі Іван Сяргеевіч Шурупаў і Анна Аляксандраўна Саленікава распрацоўваюць новыя ўзоры малюнкаў для дываноў.**

Фота М. МІНКОВІЧА.

# СПРАВЫ КАНЦЭРТМАЙСТАРСКІЯ

Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі імя А. В. Луначарскага сёлета спаўняецца 40 гадоў. За гэты час яна падрыхтавала для рэспублікі шмат высокакваліфікаваных спецыялістаў. Якасць іх падрыхтоўкі, безумоўна, залежыць ад многіх кампанентаў, дзякуючы якім фарміруецца культура, светапогляд і майстэрства выпускнікоў. Хочацца расказаць крыху пра работу адной з самых маладых кафедраў — канцэртмайстарскага майстэрства, якой загадвае прафесар М. Бергер.

Да 1969 года такой кафедры не мелася, быў толькі клас канцэртмайстарскага майстэрства, якім кіравалі прафесар Г. Пятроў і народны артыст рэспублікі А. Талкачоў. Чаму ўзнікла неабходнасць яе стварэння? Ды проста тэму, што большасць нашых выпускнікоў-піяністаў ідуць працаваць канцэртмайстрамі, і натуральна, неабходна засяродзіць іх увагу ў час вучобы менавіта на тонкасцях будучай прафесіі.

З утварэннем кафедры часцей сталі праводзіцца закрытыя акадэмічныя канцэрты, на якіх студэнты паказваюць свае работы, чытаюць з ліста, транспануюць. З гэтага года прынята рашэнне побач з акадэмічнымі праводзіць класныя канцэрты. Першая ластаўка ўжо з'явілася: адбыўся канцэрт класа канцэртмайстарскага майстэрства, якім кіруе Э. Тырманд. Выконваліся творы Рахманінава, Шасона, Вольфа, Пракоф'ева, Стравінскага і іншых. Быў падрыхтаваны адкрыты канцэрт і класа выкладчыка С. Бялькевіча.

Нядаўна адбыўся першы ў рэспубліцы, а магчыма, і ў краіне, конкурс на званне лепшага канцэртмайстра.

Праграма конкурсу складалася з двух тураў і была даволі разнастайная. У першым туры канкурсанты акампаніравалі спевакам. Шэсць твораў, розных па стылі, — ад класічнай арыі да рамансаў сучасных кампазітараў — давалі прастору для інтэрпрэтацыі задумы кампазітара і выяўлення акампаніятарскіх магчымасцей. У другім туры выконваўся буйны інструментальны твор.

Пра конкурс і яго вынікі гаворыць член журы М. Бергер:

— Конкурс, як мы і спадзяваліся, дапамог нам актывізаваць работу нашай кафедры, дакладней вызначыць узровень майстэрства студэнтаў. Пры арганізацыі конкурсу мы лічылі гэтыя задачы галоўнымі і думаем, што яны выкананы.

Больш падрабязна пра конкурс расказвае П. Падкавыраў:

— Правядзенне падобнага конкурсу радуе. Шкада толькі, што мала выконваем твораў беларускіх кампазітараў. Трэба, відаць, ва ўмовах конкурсу агаварыць абавязковае выкананне іх. Шкада таксама, што арганізатары конкурсу не паклапаціліся, каб слухачоў было больш. Бо, як вядома, вучацца не толькі тыя, хто на сцэне, але і тыя, хто ў зале. Добра было б праводзіць такія конкурсы ў вялікіх залах, каб максімальна наблізіць абстаноўку да канцэртнай. Нарэшце, трэба ўвесці ў праграму конкурсу III тур (як вядома, усе конкурсы складаюцца, у асноўным з 3-х тураў), дзе б канкурсанты паспаборнічалі ва ўменні чытаць з ліста незнаёмыя творы.

Як адзначыла журы, агульны ўзровень канцэртмайстарскага майстэрства быў высокім, у чым, несумненна, заслуга педагогаў кафедры.

Застаецца пажадаць, каб намеры кафедры канцэртмайстарскага майстэрства Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі— у бліжэйшыя пяць гадоў забяспечыць рэспубліку кваліфікаванымі канцэртмайстрамі — збыліся.

**Л. ІВАШКОЎ.**

## ПРА БЕЛАРУСЬ ЛІТАРАТУРНУЮ

**На Карагандзінскай студыі тэлебачання сёлета быў праведзены цыкл цікавых перадач пра літаратуры ўсіх нашых саюзных рэспублік. Адна з перадач была прысвечана літаратуры Беларусі. Вельмі цікава і змястоўна расказала пра шляхі станаўлення і развіцця беларускай літаратуры выкладчык педінстытута Л. Пахарава.**

**Артысты Карагандзінскага драматычнага тэатра імя К. С. Станіслаўскага паказалі сцэны з інсцэніровак паэм Янкі Купалы, рамана І. Чыгрынава «Плач перапёлкі» і «Альпійскай балады» В. Быкава.**

**А. КІТАЕЎ,**
**артыст Карагандзінскага тэатра імя К. С. Станіслаўскага.**

## МАГІЛЁЎ — ЗАГРАБ

У Магілёве, у Доме культуры швейнай фабрыкі імя Валадарскага адкрыта выстаўка работ Кацярыны Гаўрылаўны Арцёменка, вядомай майстрыхі па пляценні з саломкі. На выстаўцы паказана каля трыццаці цудоўных сувеніраў. Але самой Кацярыны Гаўрылаўны на выстаўцы не сустрэнеш — днямі яна ад'ехала ў югаслаўскі горад Заграб, куды яе запрасілі на Міжнародны кірмаш мастацкіх промыслаў.

**М. НОЖНІКАЎ.**

**Супрацоўнікі Міністэрства культуры БССР глыбока спачуваюць рэдактару рэпертуарна-рэдакцыйнай калегіі Г. Р. ГЕРШТЭЙН з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці бацькі.**

Беларускі савецкі празаік Барыс Мікуліч пражыў сорак два гады, з іх толькі каля дзесяці аддаў літаратурнай дзейнасці. І ўсё ж за гэты кароткі прамежак часу ён пакінуў досыць багатую літаратурную спадчыну, многія яго рукапісы яшчэ дагэтуль не апублікаваны і знаходзяцца ў сваякоў і знаёмых.

У трыццатыя гады Барыс Мікуліч пазнаёміўся з вядомым рускім савецкім пісьменнікам Уладзімірам Лідзіным, вёў з ім сяброўскую перапіску, дзяліўся творчымі планамі.

У адным з лістоў да мяне Уладзімір Лідзін пісаў, што ён «глыбока хавае ў душы памяць пра мілага і здольнага чалавека — Барыса Міхайлавіча Мікуліча».

Я папрасіў Уладзіміра Германавіча выслаць мне для азнаямлення і публікацыі некаторыя лісты Мікуліча, з якім я некалі працаваў у газеце «Літаратура і мастацтва», не раз сустракаўся і ў маім, і ў яго доме, а таксама ў сібірскім пасёлку Машукоўка ў час маёй працы ў Ангарскай геолага-разведачнай экспедыцыі. Лісты Барыса Мікуліча, як мне здаецца, зацікавяць і літаратуразнаўцаў, і шырокае кола чытачоў.

Станіслаў ШУШКЕВІЧ.

# «ВАША РЭДАКЦЫЯ ДЛЯ МЯНЕ ВЕЛЬМІ КАРЫСНАЯ...»

*ЛІСТЫ Барыса МІКУЛІЧА Уладзіміру ЛІДЗІНУ.*

Мінск, 16.II.34

Ул. Г.!

Мэта гэтай запіскі — паведаміць, што работа над перакладам «Магілы» ў самым разгары,— 15 сакавіка кніга пойдзе ў вытворчасць.

Працаваць — цяжка, горача.

Прывітанне!

Барыс МІКУЛІЧ.

Мінск, Савецкая, 68.
Рэдакцыя газеты «Літаратура і мастацтва».

Мінск, 16.III.34

Дарагі Ул. Г.!

Дзякуй за кнігу. Апошнія старонкі «Магілы» перакладаюцца. «Вялікі або Ціхі» перакладаецца Хадыкам,— гэта вельмі добры перакладчык і пісьменнік. З маленькім спазненнем, але ўсё ж 25 кніга пойдзе ў работу.

Днямі прачытаў Вашу «Мужнасць» і думаю перакласці для «Полымя».

Прывітанне.

Барыс МІКУЛІЧ.

10.VIII.34

Дарагі Ул. Герм.!

Учора атрыманы сігнальны экземпляр Вашага рамана. Яго Вам прывязуць у час Усесаюзнага з'езда. Кніга выдадзена сціпла, але чыста (у сэнсе друку і пісьменнасці). Мне гэта да сэрца, і я не ўтрымаўся, каб не напісаць Вам.

Днямі ў «Літаратуры і мастацтве» будзе надрукаваны мой артыкул аб Вашых кнігах...

Моцна цісну руку.
З павагай — Барыс Мікуліч.

5.IX.34

Дарагі Уладзімір Германавіч!

Дзякуй за памяць і за пісьмо. Кніга сапраўды атрымалася нядрэнная. Клянуся: новы Ваш раман перакладу лепш,—напішыце ж яго хутчэй! «Вялікі або Ціхі» (...) перакладзены ўжо і днямі выйдзе ў свет. Ён перакладзены вельмі культурным пісьменнікам.

Што я раблю? Гэта вельмі сумнае пытанне для мяне. Я працую ў выдавецтве ў сектары мастацкай літаратуры. Сумна, таму што многа работы. І я заклінаю лёс: вырвацца як-небудзь адсюль і паехаць у Маскву, вучыцца. Мару пра новы інстытут (горкаўскі). Днямі выходзіць мой раман, — я яго Вам прышлю.

Шкадую, што не давялося быць на з'ездзе... Але з захапленнем сачыў за яго работай. І цалкам згодзен з Вамі, дарагі таварыш Лідзін, галоўнае — працаваць.

Калі Вам не цяжка — прышліце мне экземпляр «Магілы» (у перакладзе),—няхай гэта будзе прыемным успамінам аб добрых Вашых адносінах да мяне.

Дарэчы — частка тыража выдадзена інакш — экземпляр гэтага выдання я Вам вышлю...

Яшчэ раз дзякуй за цёплыя радкі.

Барыс МІКУЛІЧ.

18.IX.34

Дарагі Уладзімір Германавіч,
дзякуй за кнігу і цёплы надпіс на ёй. Зноў паўтараю: Ваш новы раман перакладу з вялікім задавальненнем і з любоўю да Вас і Вашай творчасці.

Цяпер у нас пасляз'ездаўская суматоха: сходы, сходы, сходы.

Моцна паціскаю Вашу руку

Барыс МІКУЛІЧ.

31.X.35

Дарагі Уладзімір Германавіч!

...Раман Ваш я чытаю (і Ваша прыпіска аб тым, што ён друкуецца ў «Новом мире», прабачце, лішняя) і вельмі рады, што ён будзе і на беларускай мове...

Што я раблю? Працую ў поце чала свайго ў выдавецтве. Быў у Грузіі і напісаў маленькую кніжачку (4 аркушы) пра яе. Вельмі мне хочацца выйсці ў вялікую (рускую) літаратуру і, можа, з гэтай кніжкай. У мяне да Вас просьба. Можа, ведаеце адрас таварыша Ляонава, я хачу спісацца з ім пра яго новы раман. Калі ласка, вышліце адрас... Пішыце ж! Не забывайце шчыра Вас паважаючага

Барыса МІКУЛІЧА.

Дарагі Ул. Герм.!

З хваляваннем аддаю ў Вашы рукі гэтыя тры эцюды. Дзе і як Вы іх уладкуеце—цалкам спадзяюся на Вас.
Прабачце за назойлівасць.
Моцна паціскаю Вашу руку

Барыс МІКУЛІЧ.
18.II.36

Мінск, 24.II.36

Дарагі Ул. Г.!

Вашу запіску атрымаў, дзякую за памяць. Абяцаных кніг яшчэ не атрымаў. Пошта?

У «Магілу» ўеўся грунтоўна, у рабоце другая частка. Першая апрацавана начыста. Як правіла — перакладаю амаль дакладна, але некаторыя месцы даводзіцца перафразіраваць. Мне думаецца, што слоўнік (у канцы кнігі) трэба будзе папоўніць перакладам «Энтрансіжан», «Пары матэн» і іншых французскіх назваў — для беларускага чытача гэта амаль абавязкова. У тэксце назвы застаюцца, як у Вас. Калі дазволіце, я надрукую раздзелы перакладу ў газеце «Літаратура і мастацтва» і «Полымя». Напішыце свае меркаванні па гэтай справе.

І яшчэ адно. Калі дазволіце, я прышлю Вам свае кнігі. Яны дрэннаватыя, апошні раман друкуецца вельмі туга, але ўсё ж — кніга.

Паціскаю Вашу руку, жадаю здароўя.

Барыс МІКУЛІЧ.

Мінск, 25.IV.36

Дарагі Уладзімір Германавіч!

Прабачце, што пішу на лістках са сшытка — так мне прасторней (уважце школьную прывычку) і яшчэ прабачце, што адказваю з такім вялікім спазненнем: быў у Ленінградзе і толькі сёння прачытаў Ваша цудоўнае пісьмо.

Ці згодны я з Вашай рэдакцыяй?— апрача ўдзячнасці Вашы клопаты пра мой эцюдзік нічога іншага ў мяне не выклікаюць. Ваша рэдакцыя для мяне вельмі карысная, я дзякую за яе, і вельмі б хацеў, каб яна не абмежавалася толькі гэтай навелай... Дзярзаю, як бачыце. Дазвольце толькі папрасіць Вас аб некалькіх дробязях:

Па-першае. Ці нельга замяніць параўнанне «сухая, пахожая на картон, колбаса»?

Па-другое. Пасля «моя фамилия Мейер» ці нельга дадаць: «Имя есть такое»?

Па-трэцяе. Ці не гучыць фальшыва месца аб пагромах? Неяк у мяне не ўкладваецца гэта фраза.

Па-чацвертае. «Человек стал ерзать» і г. д. Ці не лепш гэту фразу зрабіць так: «Человек заерзал (на скамье?), глаза его забегали, как у загнанного зверя, человек заплакал». Нешта накшталт гэтага.

Па-пятае. «Там вас проверят и сделают выводы». Ці нельга выкрасліць гэту фразу?

Па-шостае. «И это говорило о жизни» — можа перарабіць так: «и это сулило жизнь».

Па-сёмае. Фразу «Что бы такое вам написать» хацелася б замяніць нечым накшталт «Всадник задумался. И вдруг он засмеялся», і ўжо ідзе далейшы тэкст.

І апошняя заўвага: апошняя фраза, по-мойму, не гучыць. Ці не лепш было б яе зрабіць так: «Конь рванул вперед, и доктор Мейер не кончил». Вось, прабачце, усё. Калі гэтыя заўвагі сапсуюць справу, дык прашу Вас не прымаць іх пад увагу.

Шкада, што «Куляметчык Пятроў» Вам не спадабаўся. Мне чамусьці гэты эцюд здаваўся ўдалым. Але гэта—глупства. Чакаю, чакаю вынікаў.

На жаль, чаша дыскусій не абышла і мяне (як Вы аб тым маглі меркаваць са сціплай справаздачы ў «Литгазете»), але я спакойна паехаў у Ленінград і, назіраючы, як ішоў па Няве ладажскі лёд, многае перадумаў і многае ацаніў. Рабочы настрой, дарагі Уладзімір Германавіч, у мяне моцны, а перада мной многа яшчэ наперадзе дзён і гадоў, дык я—у душэўнай шчырасці — вырашыў не хвалявацца.

Прабачце за памер пісьма, але хацелася неяк аб усім напісаць, а не напісаў жа нічога талковага! Прабачце яшчэ раз.

З удзячнасцю паціскаю руку.

Барыс МІКУЛІЧ.

P. S. Пад навелай паставіў дату. Ці варта?

Дарагі Уладзімір Германавіч!

Прабачце, што пішу на адрас Саюза, але ад Вашага хатняга адраса захавалася толькі назва завулка... Па-першае, дазвольце паціснуць Вашу руку ў дзень свята.

Па-другое, просьба: можа выпадкова ў Вашай бібліятэцы захаваўся экз. майго перакладу Вашага рамана, а можа—і мае кніжкі. Дык вось, калі гэта можна, перашліце мне (хоць бы часова) іх, я заняўся аднаўленнем свайго імя, і гэтыя кнігі мне вельмі патрэбны. Уся мая велізарная бібліятэка загінула ў агні, і я пачынаю, што называецца, з голага месца. Буду вельмі ўдзячны, калі Вы адгукнецеся.

З павагай да Вас

Барыс МІКУЛІЧ.
2.XI.47, Бабруйск.

КУЛЬТУРНАЕ ЖЫЦЦЁ ЗА РУБЯЖОМ

# СЛАВЯНСКІЯ КУЛЬТУРЫ І ЮНЕСКА

**У ЮНЕСКА** адбылася нарада экспертаў па праблемах вывучэння славянскіх культур. Гэта вывучэнне ўваходзіць у рамкі значнай праграмы навукова-даследчых работ, якія праводзяцца пад эгідай **ЮНЕСКА** і маюць на мэце ацэнку і папулярызацыю культурнай спадчыны чалавецтва. Пошукі ахопліваюць вялікія геаграфічныя зоны. Так, працягваюцца даследаванні старажытных культур Азіі і сучаснай арабскай культуры, у рамках афрыканскіх даследаванняў ажыццяўляецца выданне шматтомнай «Усеагульнай гісторыі Афрыкі», вывучаюцца сучасныя культуры Лацінскай Амерыкі. Аб'яднаныя намаганні вучоных розных краін маюць на мэце не толькі атрыманне новых дадзеных, а і ўзаемнае азнаямленне з рознымі культурамі.

«Славянскі праект» ахоплівае вялікую тэрыторыю Цэнтральнай, Паўднёвай і Усходняй Еўропы, на якой у глыбокай старажытнасці пасяліліся славянскія плямёны, а цяпер размешчаны сем краін — членаў **ЮНЕСКА**: Чэхаславакія, Югаславія, Балгарыя, Польшча, Беларусь, Украіна і Савецкі Саюз.

Удзельнікі нарады па «славянскім праекце» перш за ўсё канстатавалі, што нягледзячы на тое, што ў кожнай з названых краін вучоныя і спецыялісты праводзяць інтэнсіўную і рознабаковую работу па вывучэнні іх культурнай спадчыны, ініцыятыва **ЮНЕСКА** ўяўляецца ім сучаснай і карыснай. Яна пашырае магчымасці каардынацыі навуковых пошукаў, прычым не толькі ў славянскіх краінах, дапаможа абмену вопытам і будзе садзейнічаць у міжнародных маштабах распаўсюджванню ведаў аб славянскіх культурах, аб іх мінулым і іх сучасным.

Вучоныя - славісты, якія сабраліся ў **ЮНЕСКА**, абмяняліся думкамі аб вывучэнні славянскіх культур, якое ажыццяўляецца ў іх краінах, і намецілі шырокую праграму сумеснай дзейнасці па трох асноўных кірунках: гісторыя культуры, літаратура, мастацтва. Сярод ухваленых тэм можна назваць такія, як «Славянскія культуры і працэс фарміравання славянскіх нацый (XVII і XIX стст.)», «Узаемадзеянне славянскіх культур і іх сувязі з культурамі Усходу і Захаду (з XIX стагоддзя)», «Славянская культура і развіццё сусветнай культуры ў XX стагоддзі» і іншыя. Прынята рэкамендацыя пачаць выпуск навукова-папулярных нарысаў у серыі «Вялікія дзеячы славянскай культуры», якія будуць выдавацца на англійскай і французскай мовах.

Было таксама рэкамендавана выдаць у 1975 — 1976 гг. зборнік славянскай лірыкі XIX стагоддзя на англійскай і французскай мовах, уключыўшы гэты зборнік у план выданняў **ЮНЕСКА**, прысвечаных шэдэўрам сусветнай літаратуры.

На нарадзе было абмеркавана пытанне аб перакладзе твораў славянскай літаратуры на заходнееўрапейскія мовы. Улічваючы вялікую важнасць гэтай праблемы для папулярызацыі славянскай літаратуры, нарада раіла ў якасці аднаго з крокаў, накіраваных на падрыхтоўку выдання зборніка славянскай лірыкі, правесці калёквіум па праблемах перакладу.

Удзельнікі нарады ўхвалілі прапанову Сакратарыята **ЮНЕСКА** аб уключэнні кіно ў праграму праекта. Яны раілі арганізаваць у рамках міжнародных кінафестываляў у Маскве і Карлавых Варах сімпозіумы па тэмах, звязаных з роллю славянскіх літаратур у сусветнай кінематаграфіі.

Вучоныя славісты адзначылі неабходнасць больш шырокай інфармацыі грамадскасці аб «славянскім праекце» **ЮНЕСКА** як праекце, які садзейнічае сапраўднаму развіццю супрацоўніцтва паміж народамі.

«Новости ЮНЕСКО».

# НАВІНКІ ФРАНЦУЗСКАЙ МОДЫ

Французы здаўна лічацца заканадаўцамі моды. Створаныя парыжскімі майстрамі мадэлі адзення распаўсюджваюцца па ўсім свеце. Таму зразумела велізарная цікавасць да нядаўняй выстаўкі жаночай моды на зімовы перыяд 1972—1973 гадоў, якая атрымала назву «Вялікага тыдня калекцый».

Дом мадэляў Жака Эстэраля выступіў на выстаўцы за элегантнасць у модзе, аб'явіўшы вайну «адзенню прамысловай эстэтыкі», мадэлі якой былі навеяны рабочымі спяцоўкамі. Амаль у палавіны жанчын свету, у тым ліку ў Брыжыт Бардо, Сафі Ларэн свае індывідуальныя фігуры, якія не адпавядаюць стандартнаму гатоваму адзенню, заявіў Ж. Эстэраль. Спасылаючыся на тое, што большасць жанчын самі шыюць сабе плацці, а продаж швейных машын пашыраецца, ён прапанаваў шэраг вельмі простых мадэляў пад назвай: «Зрабіце самі». Характарызуючы гэтыя мадэлі, газета «Комба» пісала: «Эстэраль з трохкутніка матэрыі робіць сукенку, а з чатырохкутніка з дзвюма дзіркамі — паліто».

Фірма Крысціян Дзіор засталася вернай «разумнай і класічнай» форме адзення, якую можна насіць у любы час дня. Пако Рабан, які доўгі час спецыялізаваўся на адзенні з металічных пласцінак, у сёлетнім сезоне кінуўся ў другую крайнасць — ён прапануе шыць адзенне з замяняльнікаў скуры і сінтэтычнага футра, расшытае падробнай аздобай.

Большасць мадэльераў адмовіліся ад міні-спадніц, максі-спадніц і штаноў. Яны прапануюць нармальную даўжыню плацця. Больш шырокі пакрой — характэрная рыса мадэляў. Аматарам штаноў прапануюць насіць спадніцы.

З тканін шырока ўжываюцца фланэль, твід, шавіёт, крэп-сацін, крэпдэшын. Дамініруюць яркія колеры — чырвоны, зялёны, цёмна-блакітны, ружовы, аранжавы і жоўты; увечары — цёмны колер. У моду ўзмоцнена ўводзіцца высокі абцас туфляў і тоўстая падэшва. Моднымі застаюцца капелюшы.

Выстаўка паказала, што ў французскай модзе намецілася тэндэнцыя звароту да класічнага адзення. Парыжскія мадэльеры выступаюць супраць экстравагантнасці ў модзе, павальнага захаплення адзеннем хіпі, перайманя даваенных мадэляў, супраць безгустоўшчыны.

Нарэшце, піша ў гэтай сувязі газета «Парызьен ліберэ», «мы бачым жанчыну такой, якой мы яе любім, а не жахлівую марсіянку, адзетую невядома ў што. Нельга больш рабіць ніякіх уступак скажэнням у модзе, трэба вяртацца да гармоніі, маладосці і элегантнасці», — піша газета «Круа».

Такі паварот парыжскай моды газета «Фігаро» назвала «Аперацыяй Пігмаліён». Мадэльеры вырашылі, нарэшце, зрабіць адзенне жанчыны шыкоўным і прыгожым.

Падводзячы вынікі, «Фігаро» была вымушана прызнаць, што мадэлі, паказаныя вядучымі мадэльерамі Францыі, недаступныя для большасці француженак. Пашытае па індывідуальным заказе адзенне каштуе каля 7 500 франкаў. Гэта амаль гадавая зарплата маладой французскай тэкстыльшчыцы.

Р. СЯРЭБРАНІКАЎ,
карэспандэнт ТАСС.

Парыж.

# ВЯСЁЛАЯ ТРАСЯНКА

**ЖАРТЫ, ГУМАРЭСКІ, ПАРОДЫІ, ЭПІГРАМЫ, ШАРЖЫ**



— Хачу паглядзець, дзе ракі зімуюць...
(«Чмель», Алма-Ата).



— Ты чаго да маёй сястры ходзіш, у цябе сваёй няма, ці што?
(«Капкан», Чэбаксары).

**Закі НУРЫ**
Татарыя

## ВАЛУН НА ІЛЬДЗІНЕ

*БАЙКА*

Валун па рэчцы на ільдзіне плыў,
Замшэлы, цвердалобы,
І сам сябе ён уявіў
Вялікаю асобай:
— Гэй, трэскі! Драбната! Гэй, прэч з дарогі!
І не жартуйце вы са мной!
Запомніце, што я начальнік строгі!
Над усёй
Ракой
Гарланіць, выхваляецца і пагражае...
А сонца прыпякае...
І вось Валун ужо крычыць: — Тану-у-у!
Ратуйце! От, халера...
І... боўтнуўся з ільдзіны, як сякера.

Вольны пераклад Эдуарда ВАЛАСЕВІЧА.

**Саміт АБДУКАХХАР**
Узбекістан

### НАКОНТ ВАДЫ

— Мурадбек, чаму ты перад лектарам паставіў пусты графін?
— Я ведаю яго. У лекцыі вады хопіць на два арыкі.

### МАЛАДЫ ПАЭТ

— Здзіўляюся, Суют-бабо, няўжо Вы таксама малады паэт? Глядзіце, ваш верш выйшаў у «Зборніку маладых».
— Калі здавалі зборнік у друк, сынок, я яшчэ быў зусім малады.

**С. СМІРНОЎ**
Расія

## КЛІН-РЭВІЗІЯНІСТ

Ён за раскол
Ваюе ад душы.
Яму хоць кол
На галаве чашы.

## МЕДНАЛОБЫ БАРАН

(Усім агрэсарам)
Гразіў
прабіць
граду граніта
лбом:
Б-о-о-м!!!

## ПАЗІЦЫЯ СІЛЫ

— Я б з рыбамі дружыў,
Але не змог.—
Апраўдваў сам сябе
Захопнік Васьміног.

Пераклаў М. СКРЫПКА.

**ФІЗУЛІ,**
азербайджанскі паэт XVI ст.

●

Вучоны можа разабраць
па частках твор паэта,
А сам пачне ён верш пісаць —
няма ў мазгах прасвету.
Навука — свет адзін, паэзія —
свет іншы
Не змог, не здолеў існаваць
сам Сатана ў двух светах.




На вуліцы дождж ліў як з вядра, і Харлампій прамок да ніткі, нібыта яму не было дзе схавацца. Нібыта прыйшоў ён сюды з-за трыдзевяці зямель. А на самай справе, ад яго дома да буфета было недалёка, трэба было пераадолець толькі адзін плот, адзін масток ды адзін парог.

— Брр! Ну і хлешча!.. Прывітанне!

Выцер далонню мокры твар, патаптаўся крышку на месцы, потым усеўся на крэсла каля самага прылаўка.

Калгаснік, які сядзеў за сталом, кінуў у яго бок:

— Перачакаў бы, пакуль дождж пройдзе! Туркі за табой гоняцца, ці што?

— Маўчы, я не цукровы. Хіба гэта дождж? Ведаў бы ты, які дождж, які душ, якую лазню наладзіла мне ўчора жонка, калі я з базару пад чаркай прыйшоў! Але я зарокся: цяпер ужо — ні грама! Кончана! Да самай смерці! Дальбог...

— Не кляніся, Харлампій, можа, не такі ты час выбраў для заклёнаў. Ты — і каб піць кінуў?

— Гэ, калі ўжо я пакляўся — канец!.. Слова маё цвёрдае. Чалавек я з характарам!

— Ну, як хочаш! У мяне свайго клопату хапае. Ды і ў буфеце нешта пуста. Ні кроплі гарэлкі!..

— Ну вось бачыш? — Харлампій нервова смяецца. — Маё шчасце! Ты ўсю гарэлку выпіў...

Разбілася шклянка. Буфетчык нахіляецца, каб падабраць асколкі, потым паднімае вінаваты твар:

— Нам забаранілі прадаваць спіртныя напіткі. Нічога не зробіш — закон!

— Вось бачыш, кум? Нават закон на маім баку. Нельга — і не п'ю...

— Закон на баку нашых кабет, — зморшчыўся кум. — Гэта яны супраць таго, каб мы прапусцілі па шклянцы.

Харлампій прысуседжваецца да кума. Кладзе яму руку на плячо і па-змоўніцку падміргвае:

— Паршывае гэта зелле — гарэлка, га? У магілу загнаць можа... Зусім іншая справа шклянка вінца: асвяжае душу, абнаўляе кроў... Урачы гавораць, што...

— Але віно ў мяне таксама не прадаецца, Харлампій.

— Як? І віно таксама? — здзіўлена цягне Харлампій. — Што ж, калі так памеркаваць, то і віно, і гарэлка — адзін чорт. Правільны закон. А вось каньяк усіх п'яніц цвярозымі робіць. Каштуе ён даражэй, які дурань будзе яго браць?! Болей ста грамаў і не вып'еш. Гэй, Супрон, налі ты нам па сто грамаў каньячку... Не для таго, каб напіцца, а каб не прастудзіцца...

Буфетчык пацісnуў плячыма і толькі развёў рукамі — і каньяку няма!

— Ну і ну!—раз'юшыўся Харлампій. — Чуеш — і каньяку ўжо няма! Гэта ж проста здзек! І чаго я прываlокся ў такую непагадзь!

Пераклад з малдаўскай.

**С. МАРШАК**

## ВЯЛІКІ НЯМЫ

Пануе ў крытыцы застой
Наконт дзіцячай кніжкі,
Бо крытык тут
«Ні божа мой» —
Глядзіць на гэта з вышкі.
— Я, — кажа ён, — не педагог,
Прадмет той вывучыць не мог,
Патрэбна мне канкрэтнасць.

. . . . . . . . . .

Падатак з крытыкаў такіх
Спагнаць бы за бяздзетнасць.




— Адразу відаць: твая машына.
(«Кірпі», Баку).



— А ты, аказваецца, модніца...
— Дурань, я з ланцуга сарвалася...
(«Чмель», Алма-Ата).

По тэхнічных умовах унутраныя восем старонак газеты друкуюцца і выпускаюцца асобна ад васьмі знешніх. Атрымаўшы або набыўшы газету, укладзіце ўнутраныя аркушы ў знешнія.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 АТ 01984

Адрас рэдакцыі: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара—33 25-25, адказнага сакратара—33-44-04, аддзела літаратуры — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і музыкі — 32-24-62, аддзела выяўленчага мастацтва, архітэктуры і вытворчай эстэтыкі — 33-24-62, аддзела публіцыстыкі — 33-21-53, аддзела культуры — 33-24-62, выдавецтва — 32-22-19, бухгалтэрыі — 32-15-87.

Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.